

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 1(108) Студзень 2003 January Год выд. 11.


# "Шчасьце асабістае - кавалачак шчасьця агульнага..."

Азірнемся на той год, што сышоў ў вечнасьць, разьвітвемся, згадаем, разважым... Чым жыў гэты год? Што зьмянілася ў нашым жыцьці - што прыйшло, што набылі, што страцілі? З гэткімі пытаньнямі ў конадзень года 2003 RR зьвярнулася да Генадзя Бураўкіна.

– Сп. Генадзь, азіраючыся на год, які стаўся годам мінулым, што прыгадваецца найперш? І чаго Вы чакаеце ад году наступнага?

Год быў, як для мяне, так і для Беларусі, - можа не найгоршы, але й найлепшым ён, канешне, таксама ня быў. І напэўна, ён так і не адказаў на тыя пытаньні, якія перад Беларусьсю даўно ўжо стаяць. З падзеяў найперш узгадваецца ўся гэтая гісторыя з холдынгам. Гэта быў, можа быць, першы за апошнія гады адкрыты наступ на беларускую літаратуру, на дэмакратычныя сілы ў Саюзе пісьменьнікаў. Калі вельмі груба, вельмі адкрыта былі выкінутыя са сваіх крэслаў сур'ёзныя літаратары, галоўныя рэдактары нашых часопісаў, калі на нейкі час прыйшоў чалавек абсалютна выпадковы, абсалютна недасьведчаны й абсалютна неразумны - я маю наўвазе Сяргея Касьцяна, які чамусьці яшчэ зьяўляецца нейкім, быццам бы, прадстаўніком насельніцтва. Было ясна, што нічога ён не зьбіраўся рабіць - ён быў кінуты для таго, каб выжыць з часопісаў тых людзей, якія былі ўладзе косткай у горле. І пасьля яго самога гэтак жа бесцырымонна выкінулі.Гэта ўсё было балюча ня толькі для літаратуры, наколькі я гэта ведаю, а гэта ўсё было балюча для душы беларускай, бо беларуская літаратура доўгія часы была ахоўніцаю гэтае нацыянальнае нашай беларускай душы - пачынаючы ад Янкі Купалы й сканчаючы апошнімі гадамі нашага літаратурнага жыцьця. Гэта ўдарыла й пэрсанальна па мне - бо цяпер, як кажуць, невядома нават - дзе друкаваць тое, што усё ж такі пішацца? Як там ні было, а Слова нараджаецца ў душы, яно хоча выйсьці да людзей - ды вось як выйсьці, праз якія выданьні - гэта праблема. Таму гэты год, 2002, быў вельмі трывожны. Я ўжо не кажу, што менавіта ў 2002 годзе нарэшце мы пачулі дакладна тое, што даўно прадчувалі - што ўвесь гэты, так званы, небывалы саюз, уся гэтая адзіная віртуальная саюзная дзяржава - нішто іншае, як задумка паглынаньня Расеяй нашай роднай Беларусі. І нарэшце Пуцін пра гэта сказаў адкрыта. А тым часам нашыя лідары шмат гадоў дурылі галаву людзям казачкамі пра нейкую адну дзяржаву з двума сувэрэнітэтамі, а людзі нейкія зачараваныя, як ачмураныя, - усё гэта слухалі, верылі і ў нечым падтрымлівалі. Так што пытаньне "Што будзе з нашай краінай, што чакае Беларусь?" сёлета яшчэ болей завастрылася. Хаця ў той жа час, добра й тое, што пэўнага адказу на гэтае пытаньне пакуль яшчэ няма. І хацелася б спадзявацца, што мы ўсе, беларусы, не дазволім даць гэткі адказ, каб Беларусь нашая зьнікла, каб хлопцы нашыя паехалі, як грамадзяне адзінай дзяржавы, у Чачню гінуць за імпэрскія шавіністычныя інтарэсы. Таму год быў вельмі няпросты й трывожны. А ў наступным? Мне асабіста хочацца, каб зьявілася пэўнасьць, што беларуская дзяржава будзе жыць, што беларуская мова нарэшце стане пачуваць сябе хоць трошкі гаспадыняй на сваёй зямлі, што нам ня будзе сорамна за прадстаўнікоў сваёй дзяржавы гэтак, як сорамна часьцяком бывае, што людзі здолеюць сваёй працаю забясьпечваць сабе жыцьцё, не служэньнем некаму, а працаю - сумленнаю, прафэсыйнаю... Што дзеці нашыя ня будуць шукаць маршруту некуды за межы Беларусі, а тут, на радзіме, будуць свае таленты прымяняць. Што мы, беларусы, зробім шчасьлівай нашую дзяржаву. Мы звычайна кажам - з Новым годам, з новым шчасьцем, а што такое шчасьце? Гэта ж ня проста нейкі набытак - машына, ці набыты дом, ці там... добры ўраджай у садзе... Я думаю, шчасьце асабістае - гэта кавалачак шчасьця агульнага. Шчасьце тады, калі тваё маленькае шчасьце вельмі патрэбнае агульнаму шчасьцю. Гэта высокія словы, рамантычныя, можа й залішнія, але яны мне прыходзяць у галаву, на язык, калі я думаю пра Беларусь - уконадзень новага 2003 і азіраючыся на 2002.



*******************************************



# Традыцыі

Калядкі, бліны-аладкі...
Добры вечар,
Шчодры вечар
Усім людзям
На здароўе!

У Беларусі зімовыя калядныя святы адзначаюцца ў каталікаў з 25 снежня, а ў праваслаўных вернікаў -- з 7 студзеня.

На Каляды -- тры куцці. Нараджэнне Хрыстова, згодна са старажытнай традыцыяй, святкуюць святой вячэрай, або "посная куццёй". Пачынаецца яна з узыходам першай зоркі, якая сімвалізуе час нараджэння Хрыста. Гэта апошні дзень Пілipаўскага посту, і ўсе стравы на стол падаюцца посныя. Гэта пачастунак для продкаў -- Дзядоў.

Другая -- "шчодрая куцця" ў праваслаўных 13 студзеня, калі на стале -- усё багацце розных страў. Трэцяя -- "вадзяная", ці "галодная" адзначаецца 18 студзеня на Вадохрышча.

Нашы продкі ўспрымалі Каляду, хутчэй за ўсё, як маці Сонца. У абрадавай паэзіі яна надзелена рысамі вярхоўных духаў і самой прыроды, якая ўладарыць над усім касмічным светам...



**BELARUSIAN DIGEST**
**Беларускі Дайджэст**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Джордж Буш кажа пра Беларусь

*У сваім выступе напярэдадні Міжнароднага дня правоў чалавека прэзыдэнт Злучаных Штатаў Амэрыкі Джордж Буш згадаў Беларусь разам з такімі антыдэмакратычнымі краінамі як Зімбабвэ, Іран, Куба й Паўночная Карэя. "Мы будзем стаяць пляча да пляча зь людзьмі ўсяго сьвету, якія змагаюцца за асноўныя свабоды, з дэмакратычнымі актывістамі Кубы, студэнтамі ўнівэрсытэтаў Ірану, апазыцыйнымі лідэрамі Зімбабвэ, журналістамі Беларусі ці народам Паўночнай Карэі, якія ніколі ня ведалі, што такое свабода", -- заявіў Джордж Буш у сваім звароце. Чытайце поўны тэкст звароту прэзыдэнта ЗША цалкам.*

"Адданасьць Амэрыкі свабодзе асобы й дэмакратыя зьяўляецца асновай нашага грамадзтва. Як нацыя, мы паважаем каштоўнасьці свабоды слова, справядлівага суда, рэлігійнай цярпімасьці, а таксама ўпэўнена супрацьстаім гвалту, несправядлівасьці й тыраніі. З моманту ўтварэньня нашай краіны, Біль правоў чалавека служыў нашаму народу і ўраду ў якасьці інструкцыі па забесьпячэньні фундаментальных правоў і свабодаў грамадзян. Злучаныя Штаты зьяўляюцца краінай, дзе ўсе грамадзяне маюць магчымасьць агучваць уласную думку, вызнаваць сваю рэлігію й карыстацца перавагамі свабоды.

Сёньня шмат людзей на зямлі ня маюць магчымасьці рэальна карыстацца сваімі правамі. Амэрыка ўзяла на сябе забавязкі аказваць падтрымку ўсім, хто ўзяўся забясьпечыць гэтыя неад'емныя правы. Мы таксама будзем стаяць пляча да пляча зь людзьмі ўсяго сьвету, якія змагаюцца за асноўныя свабоды, нягай то з дэмакратычнымі актывістамі Кубы, студэнтамі ўнівэрсытэтаў Ірану, апазыцыйнымі лідэрамі Зімбабвэ, журналістамі Беларусі ці народам Паўночнай Карэі, якія ніколі ня ведалі, што ёсьць свабода. Мы ачольваем кааліцыю, якую складаюць больш чым дзевяноста нацыяў па барацьбе з тэрорам й забесьпячэньні свабоды й роўных магчымасьцяў для людзей па ўсім сьвеце. Нашая барацьба супраць гвалту дэманструе прыхільнасьць нацыі да будучыні поўнай надзеі й ўзаемаразуменьня для ўсіх людзей. Праз год пасьля вызваленьня Аўганістану ад ланцугоў тэрору й тыраніі, мы дапамагаем аўганцам будаваць інстытуты дэмакратыі й ўзаемапавагі, якія жыцьцёва неабходныя для будучай стабільнасьці, бясьпекі й дабрабыту краіны. Я спадзяюся, што мара аб свабодзе і мірным існаваньні адважнага ірацкага народу хутка таксама ажыцьцявіцца. Сьвяткуючы дзень правоў чалавека, дзень Біля правоў чалавека й тыдзень правоў чалавека, мы паўтараем свае намеры падтрымоўваць асноўныя прынцыпы свабоды й роўнасьці магчымасьцяў, якія ў свой час зрабілі нашую нацыю моцнай. Працуючы супольна па забесьпячэньні правоў людзей, мы тым самым дапамагаем будаваць узаемны давер і мірнае суіснаваньне ўсіх людзей у нашай краіне і па ўсім сьвеце.

Вышэй акрэсьленым я, Джордж Буш, прэзыдэнт Злучаных Штатаў Амэрыкі, уладаю дарučаных мне паўнамоцтваў Канстытуцыяй краіны і яе законамі, аб'яўляю 10 сьнежня 2002 году Днём правоў чалавека; 15 сьнежня Днём Біля правоў чалавека, а тыдзень, пачынаючы з 10-га сьнежня -- Тыднем правоў чалавека. Я заклікаю народ Злучаных Штатаў шанаваць спадчыну правоў чалавека, дадзеную нам папярэднімі пакаленьнямі, і рашуча завіць аб тым, што гэтыя свабоды будуць пераважаць як у нашай краіне, так і па ўсім сьвеце.

Для сьведчаньня вышэйзгаданага, я ўласнай рукою падпісваю дадзены дакумэнт дзевятага сьнежня дзьве тысяча другога году ад нараджэньня нашага Госпада й году дзьвесьце дваццаць сёмага з моманту атрыманьня незалежнасьці".

**************************************************

# Яшчэ адзін падкоп пад незалежнасць

Пачуў днямі па Беларускім тэлебачанні інфармацыю аб мяркуемым у бліжэйшы час стварэнні гімна... саюзнай дзяржавы -- і захацелася крыкнуць на ўвесь голас: "Навошта ён вам, панове інтэгратары? Гэта ж не што іншае, як яшчэ адзін падкоп пад падмурак нашай і без таго кволай незалежнасці -- пасля адзінага з Расіяй рубля, адзінага, у Маскве, эмісійнага цэнтра, адзінага грамадзянства!"

Вось гэта і будзе анексія -- без уводу ў Беларусь расійскага войска, як гэта Гітлер у 1938 годзе зрабіў у Аўстрыі. А яшчэ трубадуры інтэграцыі са старонак дзяржаўных газет стараюцца пераканаць народ, што ў саюзнай дзяржаве Беларусь і Расія будуць самастойнымі! Гэта ўсё роўна, што нявесце пасля замужжа застацца дзеўкай.

Няўжо тэлерэпартажы па расійскіх каналах аб нявыплаце па паўгода заробку рабочым у буйных гарадах -- Варонежы, Курску, Саратаве, Омску, аб замярзанні там соцень тысяч жыхароў у неацепленых дамах не папярэджваюць усіх нас: тое самае чакае і нас, беларусаў, калі залезем у ярмо саюзнай дзяржавы.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## У 2003 годзе будзе яшчэ горш

Эканамічнае становішча Беларусі ў 2003 годзе значна пагоршыцца. Такое меркаванне выказаў дырэктар Сусветнага банка (СБ) па Беларусі, Малдове і Украіне Люка Барбонэ, выступаючы ў Мінску на міжнароднай канферэнцыі "Магчымасці падтрымкі эканамічнага развіцця Беларусі".

Сур'ёзную занепакоенасць Сусветнага банка выклікае накіраванасць дзяржаўнай палітыкі на павышэнне ў найбліжэйшыя некалькі гадоў сярэдняй заработнай платы да 150 долараў ЗША. "Мы бачылі эканамічныя наступствы першага такога павышэння заработнай платы да 100 долараў ў 2001 годзе, -- сказаў дырэктар СБ па Беларусі, Украіне і Малдове. -- Акрамя таго, беларуская эканоміка значна пацярпіць ад павышэння цэн на расійскі газ".

"Прырода рэфармавання ў Беларусі -- палітычная; гэтае рэфармаванне з сацыяльным тварам, -- сказаў Люка Барбонэ, -- беларускі ўрад сур'ёзна занепакоены сацыяльнай стабільнасцю, аднак існуючая мадэль эканомікі не можа падтрымліваць гэтую стабільнасць".

Прадстаўнік банка зазначыў, што "нягледзячы на прыгожыя праграмы і дэкларацыі, у Беларусі не склалася спрыяльная атмасфера для развіцця бізнесу". "Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у Еўропе, а магчыма, і ў свеце, дзе колькасць дробных і сярэдніх прадпрыемстваў памяншаецца, а не павялічваецца, -- падкрэсліў Люка Барбонэ. -- І ў існуючых эканамічных умовах гэта наўрад ці хутка зменіцца".

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# У Расеі забаранілі лацінку

**Дума забараніла выкарыстоўваць у дзяржаўных мовах суб'ектаў фэдэрацыі лацінскія літары. Найперш гэта закране жыхароў Татарстану, дзе пачаўся паступовы пераход на лацінку.**

За праект закону "Аб унясеньні дапаўненьня ў трэці артыкул закону РФ "Аб мовах народаў РФ" прагаласавала пераважная большасьць парлямэнтароў — 336 дэпутатаў. Ад галасаваньня адмовіліся толькі фракцыі "Яблык" і СПС, палічыўшы, што закон накіраваны супраць народаў Расеі. Цяпер усе грамадзяне краіны могуць пісаць толькі кірыліцай, бо лацінка забароненая. Паводле меркаваньня расейскіх парлямэнтароў, "Наяўнасьць адзінай графічнай асновы пісьмовасьці моваў народаў Расеі дазваляе захаваць адзіную культурную і адукацыйную прастору РФ". Між тым, віетнамцы, кітайцы, армяне, габрэі, што жывуць на тэрыторыі Расеі, карыстаюцца сваёй пісьмовасьцю, акрамя гэтага, у Карэліі з 1989 г. уведзеная лацінка. Падобна, што думская папраўка рабілася адмыслова "пад Татарстан".

"Мы абаранілі права грамадзянаў на адукацыю і доступ да інфармацыі, — даводзіць старшыня думскага падкамітэту па праблемах моўнай палітыкі, нацменшасьцяў і карэнных нешматлікіх народаў Каадыр-аол Бічалдэй. — Так, калі Татарстан пяройдзе на лацінку, дык пісаць ёй будуць 2 млн. чалавек, што жывуць у рэспубліцы, а 4 млн. татараў за яе межамі рабіць гэтага ня змогуць".

Затое Фандас Сафіулін, дэпутат ад "Рэгіёнаў Расеі", мяркуе, што законапраект супярэчыць ратыфікаванай Расеяй канвэнцыі пра абарону правоў нацыянальных меншасьцяў, а таксама сямі артыкулам Канстытуцыі. Дума фактычна паставіла татараў перад выбарам — або захаваць для роднай мовы статус дзяржаўнай і вярнуцца да кірыліцы, або пісаць лацінкай і адмовіцца ад дзяржаўнага статусу.

Перайсьці на лацінку парлямэнт Татарстану вырашыў у верасьні 1999 г. Адбывацца гэта мусіла паступова, цягам 11 гадоў. Правапіс вырашылі зьмяніць таму, што расейская графіка ня цалкам адлюстроўвае асаблівасьці татарскае мовы — па некалькі гукаў пазначаюцца адной літарай. Але лацініца пачатку стагодзьдзя сучасным татарам ня дужа пасавала: мова за гэты час зьмянілася. Больш надаваўся сучасны турэцкі альфабэт, што дало расейскім законьнікам падставу зьвінавачаць татараў у "здрадзе" — незразумела толькі каму або чаму.

Расейская Дума не прыслухалася да рэзалюцыі асамблеі Міжнароднага ПЭН-клюбу, якая прайшла 17—24 верасьня ў Македоніі. У гэтым дакумэнце, прынятым з ініцыятывы беларускай дэлегацыі, выказвалася заклапочанасьць захадамі расейскіх уладаў, што маюцца забараніць лацінку ў краіне. Асамблея дэлегатаў Міжнароднага ПЭН-клюбу выказала "салідарнасьць і падтрымку навукоўцам і пісьменьнікам, якія змагаюцца за аднаўленьне лацінскага правапісу на тэрыторыі Рэспублікі Татарстан". У рэзалюцыі быў зьмешчаны заклік да расейскіх уладаў "перагледзець моўнае заканадаўства ў Расейскай Фэдэрацыі, каб усе моўныя супольнасьці мелі аднолькавыя правы і магчымасьці захоўваць і разьвіваць сваю культуру". ПЭН-клюб настойліва прасіў расейскі ўрад "забясьпечыць у Татарстане бесьперашкодны пераход на лацінскі альфабэт і разглядаць яго як крок да ўмацаваньня лінгвістычнага плюралізму, а не праяву сэпаратысцкіх тэндэнцыяў".

Апроч Татарстану ў Расеі ёсьць яшчэ ахвотныя перайсьці на лацінскую графіку. Гаворка пра гэта йдзе ў Башкірыі, Якуціі, Туве, аднак канкрэтных дзеяньняў у гэтым кірунку там пакуль не рабілася. У самім Татарстане такія забароны могуць толькі кансалідаваць народ, павялічыць нацыянальную сьвядомасьць. І фэдэральныя ўлады нічога ня змогуць тут зрабіць — хіба што пачнуць караць за віншавальную паштоўку, напісаную лацінкай.

**Франц Субель** (Н.Н.)

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Пра кальцавую дарогу і родную мову

Кальцавая дарога... Радуецца душа кіроўцы: тры паласы ў адзін бок, тры -- у другі, а хуткасць можна даваць аж 90 км у гадзіну -- і ніводнага святлафора табе. А яшчэ радуецца душа беларуса, што ўсе шыльды напісаны па-беларуску.

Але настае час з кальцавой збочыць у сталічныя кварталы. На жаль, тут беларускаму сэрцу рэдка калі выпадае радасна забіцца. Абсалютная большасць шыльдаў з назвамі крам, кіёскаў, устаноў, а таксама рэклама выканаваны на мове суседняй дзяржавы, парасійску.

Чаму такое магчыма ў сталіцы суверэннай краіны? У сталіцы, якую галоўны кіраўнік аб'явіў еўрапейскім горадам? Якая яшчэ еўрапейская сталіца ці нават звычайны еўрапейскі горад маюць такую завядзёнку -- у аздабленні візуальнымі носьбітамі інфармацыі ўжываць пераважна мову іншай краіны?

На вялікі жаль, сённяшнія кіраўнікі могуць нам прапанаваць толькі фізіялогію і ідэалогію -- гэтаму іх калісьці навучылі ў сельскагаспадарчых ВНУ і партшколах. Душа народа -- мова, яго гісторыя, а значыцца, і яго будучыня для іх нічога не значаць. Яны гаспадараць на дзяржаўных пасадах, як колісь у калгасе: худоба павінна быць накормлена, каб не раўла; таму, хто "выступае", не даваць сена, дроў, каня, трактара, камбайна; усё адабраць, каб потым уласнаручна дзяліць між "сваіх"...

Але, нягледзячы ні на што, я з аптымізмам гляджу на будучыню нашай дзяржавы, таму што яе будучыня -- у руках сучаснай моладзі. Моладзь, якая валодае замежнымі мовамі, паездзіла па свеце і ўбачыла наглядзелася, як іншыя народы шануюць сваю мову, культуру, гісторыю, суверэнітэт. І зразумела, што лепей за сваю радзіму месца на зямлі няма.

Дарэчы, восем гадоў таму людзі выбралі маладога палітыка сваім першым прэзідэнтам. Яны ўскладалі на яго надзеі: энергічны -- будзе шмат працаваць, малады -- будзе вучыцца. На вялікі жаль, мы тады вельмі памыліліся. Змяніў высокі кіроўца гістарычную сімволіку -- герб і сцяг, высецніў і даввёў да мяжы знікнення беларускую мову, пераcварыўся з суседзямі, а ў рэшце рэшт і само існаванне беларускай дзяржавы паставіў пад пагрозу.

Мікола ШАФАРЭНКА, (Н. Воля)

**************************************************

**Нам надзвычай прыемна ведаць, што нашу газэту чытаюць людзі, якія ўмеюць і хочуць думаць...**

# Палітыка

Лупцуй сваіх,
каб чужыя радаваліся…

Раскол паміж дзвюма часткамі калісьці маналітнага Беларускага народнага фронту набывае даволі брыдкую афарбоўку. У апошні час "пазнякоўцы" на дух не пераносяць "вячоркаўцаў", і ўсе іх рашэнні і блізка не супадаюць з пазіцыяй "больш умераных". Так, на нядаўнім форуме Кансерватыўна-хрысціянскай партыі -- БНФ дэлегаты заклікалі "беларускую і міжнародную грамадскасць да байкоту мясцовых выбараў, якія пройдуць у Беларусі вясной наступнага года". Другія бэнээфаўцы, якія ўваходзяць у ГА "БНФ "Адраджэньне", наадварот, ідэю ўдзелу ў выбарах падтрымалі, але асудзілі прысутнасць у палітычнам жыцці краіны так званай "трэцяй сілы".

Шчыра кажучы, уся гэтая валтузня толькі на руку існуючаму рэжыму. З-за барацьбы паміж сабою, звычайнай балбатні хлопцам як аднаго крыла, так і другога няма калі займацца сур'ёзнымі справамі. Адсюль -- жаданне зваліць усе грахі на кагосьці іншага, не заўважаючы ўласных недахопаў і прыкрых пралікаў.

Вось паслухайце довады "пазьнякоўцаў":

"У Беларусі народ фактычна адлучаны ад фармавання ўлады. Існуючым рэжымам створана такая сістэма кантролю і фальсіфікацыі выбараў, што пры любым галасаванні, пры любых выбарах рэжым заўсёды забяспечвае неабходны яму вынік... У гэтых умовах закліканне беларусаў на выбары, якія арганізоўвае рэжым дзеля сваіх інтарэсаў, ёсць правакацыя і здрада народу". "Кіраўнікамі ўлады, -- гаворыцца ў прынятым партыяй звароце, -- неаднаразова заяўлена, што пад выбары ў мясцовыя Саветы, прызначаныя на 2 сакавіка 2003 года, рыхтуецца "рэферэндум" аб зменах у Канстытуцыі, што забяспечыла б перавыбранне Лукашэнкі на трэці тэрмін". "Адзіным спосабам, якім можна дыскрэдытаваць машыну фальсіфікацыі, з'яўляецца байкот выбараў", -- лічаць прадстаўнікі КХП-БНФ. Пры гэтым яны нагадваюць, што "ў 2000 годзе беларускаму вызвольнаму руху ўдалося пераламіць настрой у грамадстве, і народ не пайшоў на выбары ў нелегальны парламент".

Не будзем далей цытаваць дакументы прыхільнікаў Зянона Станіслававіча. Давайце лепш зададзім ім адно пытанне: а што вы, шаноўныя, зрабілі, каб выбары праходзілі не па сцэнарыі ўлады? Можа, Кансерватыўна-хрысціянская партыя -- БНФ ахапіла сваім уздзеяннем людзей усёй Беларусі? Не, не і яшчэ раз не. Я ўпэўнены, пра яе існаванне ў глыбінцы наогул не ведаюць. А як жа можна кантраляваць выбары, змагацца з фальсіфікацыямі ўлады, калі няма каму "хапаць за руку" тых, хто займаецца палітычным махлярствам. І ўсё таму, што кіраўнікі і актывісты той жа КХП--БНФ топчуцца ў Мінску на праспекце Скарыны і ніяк не могуць дайсці да рэгіёнаў, да аддаленых мястэчак і вёсак.

Толькі і чуеш: рэжым не дапускае бэнээфаўцаў да тэлебачання, радыё, газет. А што, акрамя заяў, якія нагналі аскому, было зроблена для таго, каб разблакіраваць дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі? Вывелі б пазьнякоўцы на мітынгі ці шэсце 150--200 тысяч чалавек -- з такой сілай улады вымушаны былі б лічыцца. А калі побач з Юрасем Беленькім і Сяргеем Папковым стаіць 30--40, ну максімум 200 чалавек -- хто ім адчыніць дзверы на тэлебачанне альбо радыё? Збірайце людзей, даражэнькія, толькі вялікім гуртам можна прымусіць рэжым лічыцца з тымі ці іншымі патрабаваннямі.

Скажыце, а як можна сабраць людзей, калі той жа рэжым выкарыстоўвае самыя жорсткія сродкі для іх запалохвання? Рэцэптаў тут шмат. Чым падмацоўваецца ідэалагічная база КХП--БНФ? Прамовамі з-за мяжы Зянона Пазьняка? Гэтага яўна недастаткова. Дзе шырокі арсенал ідэалагічных сродкаў? Даўно наспеў час мець свае тэле- і радыёстанцыі, газеты, выдавецкія цэнтры. Лукашэнка, заўважце, душыць жывое слова ў зародышы. Але ж нешта я не чуў, каб пацярпелі ў гэтым плане сябры КХП--БНФ? Проста, мне здаецца, партыя не выходзіць на вырашэнне гэтых архівострых праблем. Як і не імкнецца пагрукацца ў дзверы кожнай сям'і, дайсці да кожнага гарадка, кожнага райцэнтра, кожнай вёскі. А можа, трэба пачаць з работы ў самой партыі? Дзе яе ячэйкі на перыферыі? Чаму лік сябраў партыі ідзе на сотні, а не на дзесяткі тысяч? Адным словам, няма напружанай чарнавой работы, а ў белых пальчатках не завалодаем даверам шырокіх народных мас.

Пра які пералом у 2000 годзе вы гаворыце, спадары? Народ не пайшоў на віртуальныя выбары не таму, што паслухаў вас, а таму, што тыя, хто іх задумаў, палец аб палец не стукнулі, каб яны адбыліся. На ўсю краіну -- адзін спісаны тралейбус (ці аўтобус) пад выбарчы ўчастак?! Віртуальнасць псеўдакампаніі сапраўды мела цынічны характар. Вось чаму атрымаўся пшык. А не таму, што "беларускаму вызвольнаму руху ўдалося пераламіць настрой у грамадстве".

Дарэчы, які вызвольны рух? Хлопцы, пра што вы гаворыце? Патлумачце людзям, якія структуры ўваходзяць у так званы вызвольны рух, якія мэты ставяцца, якія сродкі выкарыстоўваюцца. Што ўжо зроблена, што плануецца зрабіць у бліжэйшы час? Куды, да каго звяртацца, каб стаць сябрам "беларускага вызвольнага руху"?

Вы -- за байкот выбараў у мясцовыя Саветы, а як жа з тым, што па самых розных сацыялагічных даследаваннях мінімум 60--70 працэнтаў насельніцтва гатовы ісці на галасаванне?

Добра, канешне, сядзець у цёплым пакоі, апусціўшы ногі ў ванну з гарачай вадой і, падлічваючы колькасць зорак на небе, цішком займацца байкотам і выдумляць гучныя звароты наконт пачварнай сутнасці існуючага рэжыму. Вы так і колер выбарчых урнаў забудзеце і праз некалькі гадоў не ўзгадаеце, што такое наогул выбарчая кампанія, агітацыя, улёткі.

Натуральна, любы дыктатар заўсёды чыніць перашкоды і імкнецца не дапусціць апазіцыю да ўлады. А чаго ж яшчэ можна чакаць? На тое ён і дыктатар!

Што тычыцца сітуацыі ў Беларусі, то будзьце больш хітрымі і знаходлівымі! У рэшце рэшт замаскіруйце сваіх людзей пад якое-небудзь грамадскае аб'яднанне аховы лугавых вожыкаў ды рухайце іх ва ўладу. Лягчэй будзе ўсталяваць дэмакратыю, калі ў руках будзеце трымаць уладныя партфелі. Вось генерал Фралоў, калі крочыў у "палатку", то замаскіраваўся, як прафесійны разведчык. І ніхто яму не перашкодзіў перамагчы. А зараз амаль самая прыкметная асоба у ППНС! Яго чуюць людзі. Чуюць!

Больш узважаную пазіцыю займае, лічу, тая частка бэнээфаўцаў, якую ўзначальвае Вінцук Вячорка. Вось што заявіў ён падчас свайго нядаўняга выступу:

"Мы разглядаем мясцовыя выбары як цудоўную падставу для масавай палітычнай кампаніі... Гэта магчымасць данесці людзям мільёны ўлётак пра лёс незалежнасці, правесці мноства сустрэч, гэта магчымасць пабудаваць рэальную палітычную кааліцыю перад будучымі палітычнымі выклікамі. Магчыма, што такім палітычным выклікам стане рэферэндум аб працягу тэрміну праўлення Лукашэнкі, або ў цэлым падзеі стануць развівацца вельмі і вельмі імкліва. І нам неабходна будзе мець дасканалы інструмент уплыву на гэтыя падзеі -- моцную Партыю БНФ".

Але і тут разборкі выходзяць на першы план. Юры Хадыка нават паставіў пытанне аб выключэнні з КХП--БНФ вядомага палітыка Вячаслава Сіўчыка, абвінаваціўшы яго ва ўдзеле ў стварэнні так званай "трэцяй сілы" і ў перамяванні ў яе шэрагі сяброў партыі. У сувязі з гэтым была прынята заява, дзе ідэя стварэння "трэцяй сілы", якую падтрымліваюць некаторыя члены КХП--БНФ, названа "бессэнсоўнай і небяспечнай у выпадку выкарыстання гэтых сіл супраць інтарэсаў дэмакратыі і незалежнасці Беларусі...".

Размовы пра "трэцюю сілу", на мой погляд, заўсёды ўзнікаюць тады, калі вельмі слабай з'яўляецца другая сіла -- апазіцыя. Ніша не можа доўга заставацца пустой. Пратэстны электарат, які на дух не пераносіць уладу і хоча бачыць рэальную дзейнасць апазіцыі, а не бясконцыя байкоты і звароты да міжнароднай супольнасці, заўсёды будзе шукаць гэтую трэцюю сілу ці займацца яе стварэннем. І нічога тут не зробіш!

Адным словам, каб у чарговы раз не прафукаць перамогу над, як вы кажаце, бязлітасным рэжымам, станавіцеся, нашыя паважаныя дэмакраты, хоць другой, хоць трэцяй, хоць чацвёртай сілай -- каб толькі народ бачыў, што вы ШЧЫРА і МОЦНА ўзяліся за канкрэтную працу.

Што тычыцца перамогі на мясцовых выбарах, то, на жаль, многія з вас, здаецца, яе ўжо прафукалі...

Алесь КРУТАЛЕВІЧ. (Н. Воля)

# МЯСЬНІКОВІЧ
## ЯК АЛЬТЭРНАТЫВА ЛУКАШЭНКУ?

Імя Міхаіла Мясьніковіча апошнім часам усе часьцей згадваецца ў колах расейскіх і заходніх палітыкаў як найбольш прымальная альтэрнатыва Лукашэнку. Пра гэта ў інтэрвію Свабодзе паведаміў адзін зь вядучых нямецкіх экспэртаў у беларускім пытаньні, доктар паліталёгіі Гайнц Тымэрман. Паводле спадара Тымэрмана ды іншых аналітыкаў, Захад мусіць быць гатовы да пераменаў у беларускім кіраўніцтве. Тэма Беларусі гэтымі днямі абмяркоўвалася ў розных аўдыторыях Бэрліна. У сераду ў будынку міністэрства замежных справаў Нямеччыны на Unterwasserstrasse адбылася заключная дыскусія.

Адрозна ад папярэдніх бэрлінскіх імпрэзаў, у якіх мог браць удзел практычна кожны, на заключным подыюме ў МЗС прысутнічае больш абмежаваная і элітарная кола. Гэта адказныя чыноўнікі нямецкага замежнпалітычнага ведамства, дэпутаты Бундэстагу і Эўрапарлямэнту, вядучыя аналітыкі. Беларусь прадстаўляе паліттэхноляг Сьвятлана Навумава. Яе імя дастаткова папулярнае ў колах заходніх адмыслоўцаў.

На імпрэзу ў МЗС таксама запрашаўся яшчэ адзін беларускі прадстаўнік — амбасадар Уладзімер Скварцоў, асоба дастаткова аўтарытэтная ў Нямеччыне.

Паводле аднаго з арганізатараў бэрлінскіх дыскусіяў, кіраўніку беларускай дыпламатычнай службы загадзя прапанофвалі на ўзгадненьне дзевяць розных тэрмінаў імпрэзы. Аднак кожны раз амбасадар знаходзіў прычыны для адмовы. Назіральнікі бачаць у гэтым пэўны тактычны ход. Калі сёньня, у часе нефармальных размоваў палітычная кляса Нямеччыны артыкулюе пытаньне магчымай альтэрнатывы менскаму кіраўніку, — найбольш лягічны для дыплямата крок — няўдзел у імпрэзах, дзе могуць весьціся падобныя нефармальныя размовы.

Удзельнік сёньняшняга подыюму — вядучы экспэрт Нямеччыны ў расейскім і беларускім пытаньнях Гайнц Тымэрман сьведчыць, што Захад не выключае пераменаў у беларускім кіраўніцтве.

"У Лукашэнкі зараз надзвычай складанае становішча. Таму Захад мусіць быць гатовы да магчымых пераменаў. Нам вядома, што ў расейскіх кулюарах называецца імя Мясьніковіча. Масква лічыць яго альтэрнатывай Лукашэнку, прычым альтэрнатывай прымальнай. Прымальная гэтая кандыдатура і для Захаду".

На галоўнае пытаньне сёньняшняй дыскусіі адносна далейшага разьвіцьця Беларусі доктар Тымэрман адказвае так:

"Я хацеў бы спыніцца на чатырох наступных момантах: у зьвязку з пашырэньнем Эўразьвязу па ўсёй Эўропе настаюць эвалюцыйныя пераўтварэньні ў самых розных галінах, і тут поле дзейнасьці Лукашэнкі становіцца ўсё меншым і меншым. Беларуская апазыцыя апошнім часам прадэманстравала сваю гатовасьць да кансалідацыі, як гэта было на выбарах у выпадку з Ганчарыкам. У сваю чаргу, намэнклятура зараз еднасьці ня мае.

Трэці момант — маскоўскі фактар. І чацьверты — эканамічная сытуацыя ў Беларусі становіцца ўсё больш складанай. Усе гэтыя фактары, калі яны не паасобку, калі яны акумулююцца, ствараюць складанае становішча для Лукашэнкі. Яшчэ раз паўтаруся: Захад мусіць быць падрыхтаваны да зьменаў".

*****************************************************

# Пуп Эўропы будзе нашым!

Беларускія навукоўцы вызначылі, што геаграфічны цэнтар Эўропы знаходзіцца ў нас на радзіме. За права звацца "самымі цэнтральнымі эўрапейцамі" беларусы ўступілі ў барацьбу з украінцамі, літоўцамі, славакамі, латышамі, чэхамі й аўстрыйцамі.

Беларускія навукоўцы перацягнулі геаграфічны цэнтар да сябе. Намеснік галоўнага інжынэра рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Белаэракасмагеадэзія" Барыс Фурманаў паведаміў, што гэтая ўмоўная кропка разьмяшчаецца ў Віцебскай вобласьці, побач з возерам Шо. Беларусы ня першымі пачалі барацьбу за права разьмясьціць на сваёй тэрыторыі "пуп Эўропы". Нашыя суседзі пасьпелі апярэдзіць - і цяпер актыўна заклікаюць турыстаў сярод іншага й наведаць цэнтар Эўропы.

Нашая суседка, Літва, лічыць, што геаграфічны цэнтар Эўропы знаходзіцца за 24 км на поўнач ад Вільні. Па пацьверджаньне там накіроўваюць у Францускае нацыянальнае геаграфічнае таварыства: яно нібыта прызнала гэта за факт у 1989 годзе.

Далей пайшла Славаччына: яна нават "манумэнтальна" замацавала за сабою права звацца "самай цэнтральнай" у Эўропе: стэла "Геаграфічны цэнтар Эўропы" ўсталяваная ў Цэнтральнай Славаччыне, побач з горадам Крэмнец.

Латышы, як патрыёты сваёй радзімы, геаграфічны цэнтар Эўропы разьмясьцілі на сваёй тэрыторыі - побач зь мястэчкам Руцава. І не жадаючы выкідваць грошы на вецер, то бок, на будаўніцтва нейкага знака, вызначылі, што з "цэнтру Эўропы" выцякае крынічка са сьвятою вадой. Украіна пераконвае, што гэтая ўмоўная кропка разьмяшчаецца на яе тэрыторыі - у Закарпацьці, у Рахаўскім раёне. Там на месцы цэнтру ўзводзяць статую Хрыста-Збаўцы.

Чэхія, лічачы сябе цэнтрам Эўропы, спасылаецца на сваю інфармацыю: геаграфічны цэнтар разьмяшчаецца ў Нямеччыне, у Верхня-Пфальскім Тыленбэргу, што за некалькі кілямэтраў ад нямецка-чэскай мяжы. На права разьмясьціць цэнтар Эўропы ў сябе таксама прэтэндуе й Аўстрыя.

Беларускім навукоўцам дапамог новы мэтад: яны разглядалі Балтыйскае ды Белае мора як унутраныя вадаёмы Эўропы. Таму цыркуль, якім малявалі круг вакол Эўропы, сваім цэнтрам трапіў у Віцебскую вобласьць.

*****************************************************

Калі ласка, не забывыйце
Пераслаць грашовую ахвяру на
Выдавецкі фонд газэты…

# Мясціна з сівымі скронямі

У Ляхавічаў зайздросная гістарычная метрыка. Летапісныя руплíўцы прыгадваюць Ляхавічы з XV стагоддзя. У першай палове XVI стагоддзя сціплае мястэчка належала Гаштольдам, уладару Вялікага княства Літоўскага Жыгімонту Аўгусту, а затым перайшло нашчадкам багацея-гетмана Яна Хадкевіча.

Як гетман Ян Хадкевіч намыліў шыю казацкаму атаману Налівайку

У гады маёй вучобы ў Слуцкай дзесяцігодцы падручнік гісторыі, яшчэ сталінскі, нам даводзіў, што С.Налівайка не баявы камандзір узброенай хеўры, а палымяны барацьбіт за народнае шчасце. Сабраўшы кодлу адчаюг, узброіў іх і рушыў на Петрыкаў, Мазыр, Слуцк і далей, супраць ляхаў, палякаў, значыцца. А дзе жылі ляхі? У Ляхавічах, канешне ж. Узброеная банда рабавала, паліла, гвалтавала. Мой Слуцк ушчэнт спляжылі, спалілі ўсе храмы, дыхтоўныя дамы. Уявіце сабе ўзброеную зграю ў некалькі тысяч шабель, вострых дзід -- пыліць гэтая кодла, а ззаду на многія кіламетры вазы з нарабаваным дабром. Дзе ўкраінская, выпаленая сонцам, стэп, а дзе Ляхавічы!

Летапісцы згадваюць, што з 1596 года два гады таўкліся казацкія "баевікі" каля Ляхавіцкага замка, але ўсё марна. Аблівалі іх варам, смалой, калолі вострымі дзідамі. І павярнулі назад казацкія загоны.

Не пажывіліся на халяву і 7000 ваяроў нахабнага ваяводы расійскага І.А.Хаванскага праз паўстагоддзе. Вось шведы ў 1706 годзе злаўчыліся, захапілі замак і разбурылі яго ўшчэнт. Ад усяго гістарычнага багацця засталася толькі рака Ведзьма, рэшткі старажытнай капліцы на кладах, падмурак Пакроўскай царквы. Год пабудовы -- 1670, а разбураны пры антыхрыстах -- у 1936-м...

Знакамітыя "ляхі" слыннага мястэчка

Усіх знакамітых "ляхаў" на прыгожых каляровых фотаадбітках пакажа-пахваліцца наш слынны фоталетапісец, ляхавіцкі фотанестар Яўген Коктыш. І яго фотаархіў штогод папаўняецца. Яўген штогод шчыруе на бацькоўскім котлішчы па вуліцы Сонечнай, у пяці кроках ад новага храма ў Ляхавічах. З Ляхаўшчыны і Генадзь Цітовіч -- беларускі салавей з Вялікага Падлесся, душа, стваральнік і кіраўнік слыннага Дзяржаўнага народнага хору Беларусі.

Славіцца ляхавіцкі строй у беларускім народным касцюме -- яркі, маляўнічы, непаўторны па аздабленні і пластыцы. Адметная з'ява ў культурным набытку -- ляхавіцкія народныя тканіны. Не дзіва, што ўраджэнец вёскі Конькі Сымон Свістуновіч захапіўся мастацкім ткацтвам, скончыў тэатральна-мастацкі інстытут. Сымон праславіўся сваімі габеленамі "Еўфрасіння", "Зыход. Паляванне на зубра". І працаваў Сымон доўгі час у родных сценах -- вёсцы Альсіевічы, паблізу Крошына. Цяпер для Сымона Свістуновіча мастацкае ткацтва, пэўна, толькі хобі, на хлеб бярэ журналісцкай працай у "Звяздзе".

З Ляхаўшчыны і кінарэжысёр Міхал Пташук, жыццё якога трагічна абарвалася ў Маскве, аўтар фільма "У жніўні 44-га" па рамане У.Багамолава.

А вось "калыска" Уладзіміра Дамашэвіча, беларускага празаіка, -- вёска Вадзяціна. На апошніх пісьменніцкіх з'ездах спадар Уладзімір палымяна чыхвосціў апантаных прыслужнікаў рэжыму. І, канешне, у тым хаўрусе быў і Іван Іванавіч Антановіч, які са спуду дзесяць гадоў таму заскочыў у адзін акоп да сумнавядомага расійскага партгенсека Палазкова, а пры нашым правадыры ачоліў Міністэрства замежных спраў. Нарадзіўся ж Іван Іванавіч у вёсцы Дамашы.

Усялякая зязюлька пра сваё кукуе

Пра такую хатку скажаш: тут жыве гультай... Але не спяшайцеся. Ссівелы гаспадар у бурках, на плячах паношаны ватнік з адрэзанымі рукавамі, на галаве дзіўная салдацкая пілотка. А хата -- голыя сцены. На вялікіх лавах кнігі патрапаныя, тысяча разоў гартаныя, шмальцаваныя даведнікі, слоўнікі, энцыклапедычныя выданні. На этажэрцы папачкі з пазнакамі: "Чэкісцкія кілеры", "Героі тэрарыстычнай працы", "Манкурты Ляхаўшчыны", "Хрыстапрадаўцы", "Вызваленцы паход Чырвонага войска -- 1939".

Мяне адгаворвалі: не хадзі да яго. Цяжкі ён чалавек, праўду рэжа, на пагоны плюючы. Былы настаўнік гісторыі. Кожнае лета па вёсках ходзіць, людзей пра вайну распытвае, праўду шукае... Начальства баіцца з ім звязвацца. На ветэранскіх імпрэзах такое выдасць -- вушы залепіць... Ветэран пачынае куваць пра перамогу, а гэты падхопіцца і гучна, усім чутно:

-- Пра што пяеш, кладаўшчык? На трэці тыдзень вайны пяць мільёнаў палонных пыліла па дарогах гаротнай краіны...

Я прысеў на лаву, адсунуўшы патрапаныя кнігі, сшыткі, фотаздымкі, газетныя стужкі. Ён уважліва зірнуў на мяне, прагаварыў стомлена:

-- Бачыш, працую. Капаю. Праўду ад г...а адшкрабаю... Вайна, подзвіг народа, партызаны, мсціўцы, класічны партызанскі рух. Чэкісцкія кілеры-героі шасталі па Заходняй Беларусі. Што за вайна з акупантамі? Хто ж прадаў Беларусь палякам? Таго і страляй. Троцкага, Леніна, Крыленку, а не войта, паліцыянта, павятовага возчыка.

Ён гаварыў адрывіста, злосна:

-- Я запісаў тысячы гісторый. Вайна, гора, папялішчы, слёзы. Перагартаў тысячы кніг пра начальнікаў на вайне, у партызанцы. Многае не сходзіцца, не лепіцца. Я сваю энцыклапедыю складу... Праўда пра вайну, -- ён утыркнуўся ў свае рукапісы. А я рушыў да ляхавіцкага фермера.

Кумпячкі па-ляхаўску

Не ведаеце такіх? А хамоны па-інспанску? Венджаныя кумпячкі, вепруковыя. У кожным іспанскім харчовым закутку вока цешаць, апетытныя, арыгінальныя. А хутка будзе такая лафа і ў Ляхавічах. Харчовы рай у асобным крамным закутку Ляхавічаў абяцае Мікалай Барташэвіч...Да кумпячкоў дадайце каўбасу-самапханку, крывянку ў трыбуху, шмат іншых прысмакаў, якія мы возім з Польшчы, Нямеччыны, суседняй Латвіі, Расіі.

А самі хіба зломкі? Дзівіцца Мікалай Барташэвіч, чалавек рашучы, працавіты, ад свайго мазалька цешыцца і сваім імпэтам няўрымслівага чалавека натхняе. Узяўся арандаваць заняпалую калгасную канюшню. Коней калгас спляжыў на каўбасы -- бяры, Мікола Аляксеевіч. А ў яго пры сядзібе хлеў, дзе 13 вепрукоў рохкаюць, глядзі, каб хлеў не абярнулі, -- такіх цяжкавагавых гадаванцаў толькі пашукаць. І сабе хапае, і з дзяржавай рэшткай падзелімся.

Мікалай Барташэвіч пасадзіў нас у свой напрацаваны аўтаконік і вазіў па тых мясцінах, дзе яго рупнай працай пабудаваны аўтапарк, рамонтная майстэрня. Памочнікі ў Міхаіла надзейныя: жонка Таццяна -- бухгалтар, аграном, эканаміст і сын Мікалай -- майстар на ўсе рукі. -- Будзе ў нас шынок "Шпэк ляхаўскі", крама па продажы далікатэсаў. Хопіць жа вазіць гэтыя прысмакі чорт ведае адкуль.

Вячаслаў ДУБІНКА.( Н.В.)

# Дык хто мы -- мёртвыя душы ці ня мёртвыя?

Прачытаў днямі артыкул Уладзіміра Даўжэнкі "Мёртвыя душы" і адразу адчуў няёмкасць. Ну, як жа гэта я сам не дацяміў, што трэба тэрмінова пісаць у газету, біць ва ўсе званы, клікаць людзей на актыўныя дзеянні, удакладняць, хто падтрымлівае рашэнне НАТО, каб беларускі прэзідэнт быў невыязным, а хто асуджае гэтую "варожую арганізацыю". Было б вельмі здорава, каб прыхільнікі і апаненты беларускага рэжыму выразшылі высветліць, на чыім баку ўсё ж праўда.

Што тычыцца асабіста мяне, то я цалкам падтрымліваю рашэнне шэрагу еўрапейскіх краін і ЗША, забараніўшых уезд на іх тэрыторыю васьмі высокім беларускім чыноўнікам, якія не ў стане спыніць у краіне масавыя парушэнні правоў чалавека, знішчэнне дэмакратычных прынцыпаў, парушэнні Канстытуцыі і заканадаўства, скажэнне праўды аб падзеях у краіне, паступовае знішчэнне незалежнасці краіны і іншае. Зразумела, што ў гэтым катэгарычным рашэнні еўрапейцаў і амерыканцаў пераглядваецца абраза Беларусі і яе народа, але віна ў гэтым не іх, а некампетэнтнай улады нашай краіны. Я гатовы сцярпець гэтую абразу, калі буду ўпэўнены ў тым, што гэта дапаможа законным шляхам усталяваць у Беларусі дэмакратыю, калі гэта падштурхне нас да інтэграцыі ў еўрапейскую супольнасць... Калі паміж Расіяй і Беларуссю пачалася газавая сварка, кіраўнік беларускай дзяржавы па-руску сказаў прыкладна наступнае: "здесь живет гордый и независимый народ, который не позволит пинать себя ногами". Словы прыгожыя, але паверыць немагчыма. Калі б беларускі народ быў горды і незалежны, у нас немагчыма было б правесці спекулятыўны рэферэндум у маі 1995 года, у нас бы не адбыўся дзяржаўны пераварот у лістападзе 1996 года, у нас нікому нават думка не магла б прыйсці аб тым, каб у школах спрэч выкладалі не на роднай мове, у нас бы не знікалі знакамітыя палітыкі, над дзяржаўнымі ўстановамі лунаў бы бел-чырвона-белы сцяг, нас бы паважалі ва ўсім цывілізаваным свеце.

Чаму кіраўнікі цывілізаваных краін не ўспрымаюць адносін з беларускім прэзідэнтам? Таму што кіраўнікі гэтых краін -- кампетэнтныя, культурныя, высокаадукаваныя людзі. Беларуская ўлада за восем гадоў нічаму не навучылася. Людзі, якія прыйшлі да ўлады, засталіся на ўзроўні тых пасад, якія яны займалі да гэтага. Еўрапейцам непрыемна сустракацца абы з кім, апускацца "ніжэй калена". Таму беларускія кіраўнікі вымушаны сустракацца з расійскімі "чырвонымі" губернатарамі і ўсходнімі дыктатарамі.

Хто што б ні казаў, я бачу поўную бяспеку для Беларусі толькі пад парасонам НАТО. І гэтага трэба намагацца ўсімі сіламі.

Уладзімір Даўжэнка назваў усіх нас, маўклівых, запалоханых, да ўсяго абыякавых, "мёртвымі душамі". Дзякуй, што "не вшивыми блохами", не "отморозками". Персанажамі з твораў вялікага класіка быць больш ганарова.

У адным катэгарычна не згодзен з Уладзімірам Даўжэнкам, калі ён звяртаецца да нас: "... куды дзеліся астатнія 75 працэнтаў працаздольнага насельніцтва, якія яшчэ год таму стройнымі шэрагамі ішлі галасаваць за А.Р...". Але каму вядома, што яны ішлі галасаваць за А.Р.? Гэтым самым Уладзімір Даўжэнка пацвярджае, што сапраўды за Лукашэнку прагаласавала 75 працэнтаў выбаршчыкаў, прыняўшых удзел у выбарах. Няўжо ён ужо забыў, як адбываліся выбары, колькі было парушэнняў выбарчага заканадаўства, і што цывілізаваны свет не прызнаў вынікаў прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, якія адбыліся 9 верасня мінулага года.

Зараз, мне здаецца, краіна падышла да такой рысы, калі ўладзе для правядзення выбараў ці рэферэндумаў выбаршчыкі, электарат ужо не патрэбны. Дастаткова будзе Цэнтрвыбаркама, акруговых і ўчастковых камісій, укамплектаваных з адданых уладзе людзей.

Пагроза страты сваёй дзяржаўнасці і незалежнасці над Беларуссю навісла яшчэ з большай сілай. Сварка паміж беларускай і расійскай уладамі прыпынілася, зноў аднавілася гаворка пра нейкую саюзную дзяржаву. Як грыбы, з'яўляюцца новыя інтэгратары, гатовыя ў любы момант дапамагчы Лукашэнку. Яны больш небяспечныя для краіны, чым ён сам.

Каб зберагчы сваю пасаду, Лукашэнка, я ўпэўнены, не пойдзе на драбленне Беларусі на шэсць суб'ектаў для Расійскай Федэрацыі. Штурхнуць на гэта яго можа толькі крайні выпадак, напрыклад, у перспектыве атрымаць пенсію памерам як у Станіслава Шушкевіча. Гэтым жа новым "інтэгратарам" дастаткова паабяцаць "цёплыя месцы" і яны здадуць Беларусь не толькі шасцю абласцямі, але і раёнамі, і калгасамі.

Ілья КОПЫЛ, пенсіянер. (Н. В.)

***************************************************

# Быць або ня быць

Людміла Гразнова

Апошнія гады нашая краіна ўсё больш нагадвае вар'яцкі дом. Галоўны доктар кажа, што жыццё стала больш лёгкім і вясёлым, а пацыенты становяцца ўсё больш сумнымі і праводзяць адзін аднаго на вечны спакой. У гарадох узводзяць ільдовыя палацы, у якіх ніхто не катаецца, і зачыняюцца, поўныя хворымі, анкалягічныя аддзяленьні. "Служкі" народа раз'яжджаюць на шыкоўных "мэрсэдэсах", а "гегемон" у час пік прыступам бярэ даламаныя аўтобусы. У школах уводзяць дзесяцібалавую сыстэму, ад якой ва ўсіх "едзе крыша", але Міністэрства адукацыі не жадае прызнавацца, што грошы пайшлі дарэмна. Куды ня глянь – паўсюль пустыя клопаты, імітацыя, падман, традыцыйная "лапша на вушах" і ўсё больш гаротнае становішча народу. Адным словам, бардак, калгасны маразм і вар'яцкі дом.

***************************************************

# Беларусь -- "чорная пляма"

"Нам вельмі шкада, што Беларусь уяўляе сабой "чорную пляму" на карце Еўропы ў сэнсе членства ў Савеце Еўропы. Мы вельмі хацелі б, каб гэтага не было, але гэта патрабуе намаганняў з беларускага боку". Такую заяву зрабіла намеснік генеральнага сакратара Савета Еўропы Мод дэ Буер-Букікіо на прэс-канферэнцыі ў Маскве.

Паводле слоў сп. дэ Буер-Букікіо, СЕ хацеў бы пачуць "больш дакладны сігнал ад прэзідэнта Беларусі аб гатоўнасці больш дынамічна ўдзельнічаць у працэсе дэмакратызацыі". Яна таксама адзначыла "цалкам нездавальняючую і недастатковую для правядзення дыялогу аб уступленні Беларусі ў Савет Еўропы" сітуацыю са свабодай друку ў краіне.

Разам з тым намеснік генеральнага сакратара СЕ выказала прэтэнзіі да афіцыйнага Мінска па праблеме "незалежнасці сістэмы судаводства, карупцыі, таксама ў цэлым ідэі дэмакратыі, якая мае на мэце незалежнасць заканадаўчай улады". "Адсутнасць незалежнасці парламента -- гэта вялікі недахоп у Беларусі", -- заявіла Мод дэ Буер-Букікіо.

Намеснік генеральнага сакратара Савета Еўропы паведаміла, што СЕ чакае адказаў на ўсе гэтыя пытанні. "Пакуль такіх сігналаў з Мінска не было, таму абмеркаванне пытання аб членстве Беларусі дачаснае", -- падкрэсліла Мод дэ Буер-Букікіо.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Віза ў ЗША -- 100 доляраў

З 1-га лістапада кошт неіміграцыйных візаў у ЗША павялічыўся да 100 доляраў.

Як зазначылі ў пасольстве ЗША, павышэнне кошту візы павінна прывесці да рэальнай акупнасці выдаткаў на апрацоўку запытаў і афармленне віз. Узмоцненыя меры бяспекі, што прымаюцца ЗША пасля тэрарыстычных актаў 11 верасня 2001 года, патрабуюць большых фінансавых і працоўных затрат для апрацоўкі заяў на атрыманне візы. Пры гэтым, як заявілі ў пасольстве, "Дзярждэпартамент ЗША ўсведамляе, што павышэнне кошту візы можа паўплываць на попыт".

***************************************************

# Яму адкрылася краса…

## Да 80-годьдзя мастака Юзафа Пучынскага

І толькі воку мастака
Краса даверыцца адкрыцца,
Каб непаўторна паўтарыцца
Цнатлівым дотыкам мазка…

Рыгор Барадулін. З верша, прысьвечанага Юзэфу Пучынскаму.



Вось ужо некалькі гадоў у Чыкага жыве і плённа працуе выдатны беларускі мастак Юзаф Пучынскі. Яго жывапісныя тэматычныя карціны, пейзажы, нацюрморты, партрэты, шматлікія творы ў тэхніцы графікі вылучае строгая форма і рэалістычная традыцыя. Але традыцыя гэта ідзе ад мастакоўскай школы з найвялікшымі прафесійнымі і эстэтычнымі патрабаваньнямі, ад віцебскай школы, якая дала і Беларусі, і ўсяму сьвету ў XX стагодьдзі многіх слаўтых майстроў выяўленчага мастацтва.

Радзіма Юзафа Пучынскага – мястэчка Узда, там, дзе бярэ пачатак апетая многімі ў жывапісу і паэзіі рака Неман. Бацька будучага мастака, мясцовы каваль, хацеў, натуральна, каб Юзік (менавіта так завуць дагэтуль Юзафа Пучынскага яго сябры усіх узростаў) працягваў сямейную прафесійную традыцыю. Але хлапец не паслухаўся бацькі: ён апантана хацеў стаць мастаком. Ён едзе ў Віцебск і паступае вучыцца ў заснаванае Маркам Шагалам Мастацкае вучылішча.

Але завяршыць вучобу не ўдалося: пачалася вайна. У дваццаць год Юзаф Пучынскі – ўдзельнік жорсткіх баёў пад Сталінградам, там жа ён быў цяжка паранены. Мастак увесь час беражліва захоўваў і нават прывёз сюды ў Чыкага некалькі замалёвак алоўкам, што былі зроблены тады, у 1942 годзе пад Сталінградам. Сёньня немагчыма глядзець на іх проста так, без хваляваньня… Працягваў сваю мастакоўскую адукацыю Юзаф Пучынскі ўжо пасьля вайны ў Менскім тэатральна-мастацкім інстытуце. Сярод яго настаўнікаў былі такія майстры як Валянцін Волкаў, Віталь Цвірка, Іван Ахрэмчык.

У жывапісных і графічных працах пасьля інстытуту Юзаф Пучынскі імкнецца знайсьці свой непаўторны стыль, прычым не ў зьнешніх праявах, а ў зьмястоўнасьці мастацкіх пошукаў, у эмацыянальнай экспрэсіўнасьці пры выкарыстаньні самай рознай тэхніцы. Ягоныя тэматычныя карціны заўсёды былі по настрою зусім іншыя, чымсьці таго патрабавала рознае кіраўніцтва і афіцыйная крытыка. Сапраўдная стыхія мастака – пейзажы, напісаныя ў розны час ў самых розных кутках роднай Беларусі, пейзажы, якія апяваюць яе прыроду і яе векапомныя мясьціны. Возера, а на далёкім беразе – старадаўні замак… Знаёмыя абрысы архітэктурных помнікаў Нясьвіжа… Каплічка сярод дрэваў… Царкоўныя сцэны, што хаваюць нейкую таямніцу… Коні на беразе такой задуменнай ракі… Зімовая далечыня, пакрытая сінім снегам, неба, задуменнае, хмарнае, такое, пра якое Рыгор Барадулін, даўні сябра Пучынскага, напісаў аднойчы, гледзячы на карціну мастака: "Не працэджаны хмар сырадой…" А вось – сьветлы летні дзень, такі прыманлівы стог сена на лузе, усе фарбы – звонкія… Юзэф Пучынскі напісаў мноства пейзажаў, і нідзе няма паўтарэньня пункту гледжаньня, ракурсу, каляровай гамы. Кожны раз – новая сустрэча з прыродай, новае перажываньне.

У жанры пейзажа мастак пасьпяхова працягвае працаваць і тут, у эміграцыі. У такіх творах як "Універсітэт Лайола", "Зіма ў Чыкага", "Чыкагскі пейзаж" ды іншых адчуваецца тая ж удумлівая манера мастака; мы бачым нібы працяг мастацкага асэнсаваньня новай прасторы, новага жыцьця, новай рэальнасьці.

Не простае адлюстраваньне натуры, а яе спасціжэньне, пранікненьне ў яе сутнасьць, – так бы я вызначыў адметную якасьць творчай індывідуальнасьці Юзафа Пучынскага. "Хто мы? Адкуль мы?" – нібы пытаецца мастак у сваіх пейзажах, нацюрмортах, партрэтах. Дарэчы, у нацюрмортах мастака – той жа заклік да роздуму, не простае захапленьне кампазіцыяй, а запрашэньне да актыўнага суперажываньня. Асобна можна гаварыць пра гармонію ў колернай гаме мастака, пра фарбы на ягоных палотнах.

У партрэтах, напісаных Юзафам Пучынскім, адчуваецца шчырая любоў мастака да людзей, глыбокая праўда характараў персанажаў. Выдатна выкананы мастаком партрэт Янкі Купалы ўпрыгожвае залу Беларускага нацыянальна-культуровага цэнтру пры уніяцкай царкве Хрыста-збаўцы ў Чыкага. Сутнасьць асобы, псіхалагічная дакладнасьць, глыбокі роздум пра час, пра лёс роднай зямлі і яе выдатных прадстаўнікоў, – усё гэта чытаецца ў яго партрэтах Рыгора Барадуліна, Янкі Сіпакова, Артура Вольскага і іншых. Цікавыя ў Юзафа Пучынскага і абагуленыя партрэты, такія як "Партызанская маці", "Дзяўчына з Рудні", "Яўрэйская бабуля" ды іншыя. Блізкія да гэтага жанру і творы, напісаныя мастаком па матывах біблейскіх сюжэтаў і нядаўняй трагічнай яўрэйскай гісторыі – "Юдзіф", "Іоў", "Саул і прарок Самуіл", "Памяць пра Бабін Яр", "Зоркі. Менскае гета".

Як мастак-графік Юзаф Пучынскі доўгія гады пасьпяхова працаваў у часопісах "Работніца і сялянка", "Маладосьць", у кніжных выдавецтвах Менску, Кіева, Масквы. Мастаком створаны цудоўныя ілюстрацыі амаль да 150 кніг беларускіх і замежных пісьменьнікаў, вялікая колькасьць малюнкаў і ілюстрацый надрукавана ў самых розных перыядычных выданьнях. І ў графічных працах мастака тая ж уласьцівая яму натуральнасьць кампазыцыі, перадача лініяй, штрыхом самага галоўнага, тая ж шчырасьць і экспрэсіўнасьць.

…Прыгадваю свае маладыя гады, як мы прыходзілі ў менскую майстэрню да Юзафа Пучынскага. Усе мы – і



"Залесьсе"



"Восенскі матыў"



"Раньняя вясна"

Рыгор Барадулін, і Міхась Стральцоў, і Артур Вольскі, і Валянцін Тарас, і іншыя – былі маладзейшыя за мастака, але нас усіх нешта моцна цягнула да яго. Тут можна было шчыра і адкрыта пагаварыць аб усім, адвесьці душу, часам узяць і чарку… У тыя часы менавіта тут не баяліся анікога, не прызнавалі аніякіх аўтарытэтаў. Да Юзафа Пучынскага не вельмі прыхільна ставілася кіраўніцтва Саюза мастакоў Беларусі і рознае начальства, тым не меней усе яго персанальныя выставы карысталіся вялікім посьпехам – і ў Менску, Кіеве, Маскве, Вільнюсе, у Польшчы, Венгрыі, Балгарыі, Італіі… Ужо тут, у Амэрыцы, творы мастака экспанаваліся ў вялікім холе Чыкагскай мэрыі, яны былі аднымі з лепшых на нядаўняй адмысловай выставе "Зямля пад белымі крыламі", дзе былі паказаны працы мастакоў, што паходзяць з Беларусі і жывуць цяпер у Чыкага.

19 сьнежня 2002 года Юзафу Пучынскаму споўнілася 80 гадоў. Ён працягвае плённа працаваць, захоўваючы сваю традыцыйную стылістыку, дадаючы ў свае жывапісныя палотны матывы асэнсаваньня новай прасторы, новага жыцьця, новай рэальнасьці. Творчасьць для мастака – гэта не проста праца. Гэта – сутнасьць яго жыцьця, яе плённы зьмест. Віншуючы гэтага цудоўнага чалавека і мастака са слаўным юбілеем, пажадаем яму моцнага здароўя, доўгіх год жыцьця і новых посьпехаў у яго натхнёнай творчасьці.

Ванкарэм Нікіфаровіч, Чыкага.

*****************************************************

# Наступствы пажару могуць разбурыць Нясьвіскі замак

*Бліжэйшымі днямі ўдасца ліквідаваць некаторыя наступствы пажару ў Нясьвіскім замку ў Беларусі, у прыватнасьці, ўзьвесьці 600 квадратных мэтраў даху, спаленага агнём, а таксама часткова высушыць памяшканьне і ўмацаваць падпорам перакрыцьці. Як перадае карэспандэнт РІА "Новости", пра гэта паведаміў віцэ-прэм'ер ураду Беларусі Уладзімер Дражын, які ачольвае дзяржаўную камісію па ўдакладненьні прычынаў узьнікненьня пажару, а таксама для ацэнкі ўрону, нанесенага вагнём. Ён прыбыў у сераду ў Нясьвіж. Дражын паведаміў, што сума матэрыяльнага ўрону пакуль нявызначаная, аднак, паводле яго, яна значная і будзе канчаткова вядомая пасьля правядзеньня шэрагу прац у замку.*

Пажар, што пачаўся наканадні ўвечары зьнічтожыў дах і сутарэньні цэнтральнага фасаду нясьвіскага замку, а таксама фрэскі ў більярднай залі, разьмешчанай на апошнім паверсе. Ахвяраў і пацярпелых няма.

Як распавялі РІА "Новости" супрацоўнікі музею Нясьвіскага замку, гэты помнік архітэктуры XVI стагодзьдзя – знаходзіцца ў аварыйным стане. Значны ўрон забудове нанесла вада, якой тушылі полымя.

Сапсаваная паркетная падлога XVII-XVIII стагодзьдзяў, фрэскі на столі, а таксама адзіная карціна XVIII стагодзьдзя у сутарэньнях замку. Застаецца пагроза абвалу перакрыцьця, якія пры тушэньні пажару ўвабралі ў сябе больш за тры тоны вады.

Нягледзячы на выходны дзень ў Беларусі з нагоды каталіцкіх Калядаў, супрацоўнікі замку былі выкліканыя для ліквідацыі наступстваў пажару. Акрамя таго, на месцы здарэньня працуюць брыгады рамонтнікаў.

У супрацоўнікаў праваахоўчых органаў Беларусі засталася адна вэрсія ўзьнікненьня пажару – нядбайнае стаўленьне да працы сьлесароў і незахаваньне імі правілаў пажарнай бясьпекі. Асобы слесараў, якія працавалі паяльнай лямпай пры абагрэве ацяплянай сыстэмы замку ўстаноўленыя, ім будзе прад'яўлены зыск.

Будаўніцтва нясьвіскага замку было распачатае ў XVI тагодзьдзе паводле праекта італьянскага архітэктара Джавані Бернардоні. Дзякуючы замку, Нясьвіж у свой час ператварыўся ў адзін з цэнтраў эўрапейскае культуры. У бібліятэцы замку захавалася частка архіваў Вялікага княства Літоўскага. Да нядаўняга часу ў замку быў разьмешчаны санаторый "Межколхоздравницы". У 2000 годзе было прынятае рашэньне аб рэстаўрацыі ўнікальнага гістарычна-мастацкага помніка. Падрыхтаванае рашэньне аб уключэньні Нясьвіскага замку ў сьпіс помнікаў сусьветнае культуры ЮНЭСКА.

# У Нясьвіжы, былой сядзібе Радзівілаў, беларускія археолягі знайшлі скарб – гліняны гаршчок, запоўнены манэтамі XVII і XVIII стагоддзяў.

Гаршчок быў закапаны толькі некалькі сантымэтраў пад зямлёй. У ім знаходзілася прыблізна 2000 манэтаў. Навукоўцы сьцьвердзілі, што гаршчок быў схаваны ў 1706 годзе, калі швэдзкія войскі напалі на Нясьвіж і яго спалілі. Беларускія археолягі мяркуюць, што скарб закапаў ювелір. На дне пасудзіны былі схаваныя прылады для апрацоўкі каштоўнага металю. Цяпер ў палацы Радзівілаў ідзе рамонт, пры нагодзе вядуцца археалягічныя дасьледваньні.

*****************************************************

# Яго запавет: любіць Беларусь усім сэрцам

Апоўначы, укленчыўшы, малюся,
У Бога, сонца і зорак малю
Даць волю і долю маёй Беларусі,
Вярнуць нашу мову, душу і зямлю.

Гэтым усёпаглынальным пачуццём адданасці сваёй дарагой Бацькаўшчыне жыў кожны дзень і кожны міг старэйшына нацыянальнай літаратуры, наш слынны, любімы і глыбока шануемы ў народзе паэт Сяргей ГРАХОЎСКІ. Нядаўна перастала біцца яго спакутаванае, трапяткое сэрца.

Доўгі, сапраўды церністы шлях наканавана было прайсці яму па гэтай зямлі. Маладым, акрыленым рамантычнымі парываннямі вясковым юнаком ступіў ён напрыканцы 20-х гадоў мінулага стагоддзя на паэтычную сцяжыну. Ды камнем упаў на крылы трагічны 1936-ы. З невыказным болем згадваў Сяргей Іванавіч незабыўную шчымлівую карціну: чорны "варанок" вязе яго ў невядомасць па начной вуліцы Мінска, а ў акенцы яго апусцелага пакоя ўсё яшчэ свеціцца непагаслая свечка...

Непагасным агеньчыкам за калючым дротам ГУЛАГа, сярод сініх сібірскіх снягоў была думка аб роднай зямлі. Яна давала сілы выжыць тады, калі гэта здавалася немагчымым. Пацёрты старэнькі блакноцік той пары (захаваць яго -- і то быў подзвіг!) Сяргей Іванавіч гартаў апошнім часам дрыжачай ад хвалявання рукой.

Можна толькі здзіўляцца, як пасля 20 год няволі, ужо на роднай зямлі з магутнай сілай выбухнуў яркі творчы дар Сяргея Грахоўскага. Адзін за адным выходзяць у свет кнігі яго вершаў і дакументалістыкі, якія ўражваюць глыбінёй думкі, тонкасцю пачуцця і яркай вобразнасцю, класічнай адточанасцю кожнага слова і радка. Гарачая прыхільнасць чытача да творцы такога высокага палёту давала яму моцы актыўна працаваць да апошніх дзён, калі ўжо таялі яго фізічныя сілы... Многія свае творы Сяргей Іванавіч публікаваў у "Народнай волі", у яго архіве ёсць сіняя папка, пакінутая нам для пасмяротнай публікацыі.

Толькі год не дажыў Сяргей Грахоўскі да свайго 90-годдзя. А тое, што ён стварыў, можна не сумнявацца, перажыве нашых дзяцей і ўнукаў, бо яго запавет любіць усім сэрцам Беларусь, жыць дзеля яе -- і ў нашых сэрцах.

**********************************************

# Зьбігнеў Бжэзінські: пра Ірак

Былы дарадца прэзыдэнта Картэра па нацыянальнай бясьпецы Зьбігнеў Бжэзінські лічыць, што ў блізкаўсходнім крызысе на кон пастаўленая законнасьць амэрыканскага глябальнага лідарства й эвалюцыя ўсё больш бясьпечнай міжнароднай сыстэмы: "Тое, як мы прымусім Ірак паважаць міжнародныя правілы, створыць прэцэдэнт для эфэктыўнага вырашэньня падвоеных праблем распаўсюду зброі масавага зьнішчэньня й тэрарызму ў іншых кутках плянэты".

Адмоўная рэакцыя на даклад Багдаду, накіраваны ў ААН, прымушае меркаваць, што ў бліжэйшыя некалькі тыдняў, хутчэй за ўсё, зноў паўстане пытаньне пра схаваную зброю масавага зьнішчэньня ў Іраку. А таму цяпер больш, чым калі-небудзь, важна, каб Злучаныя Штаты зрабілі ўсё магчымае для ўмацаваньня даверу да сваёй пазыцыі.

Салідная большасьць апытаных у Францыі, Нямеччыне, Расеі й Турцыі выступаюць супраць вайны, і нават грамадзкасьць Вялікай Брытаніі падзялілася ў гэтым пытаньні. Амэрыканцы пераважна падтрымліваюць выкарыстаньне сілы пад эгідай ААН, але не як аднабаковую акцыю, у якой прымаюць удзел пераважна амэрыканскія сілы. Замежнікі, якія сымпатызуюць ЗША, усё часьцей даюць зразумець, што ім не падабаецца амэрыканская зьнешняя палітыка, а менавіта - гатовасьць Амэрыкі распачаць вайну.

У гэтых абставінах уяўляецца настойліва неабходным, каб Злучаныя Штаты ў бліжэйшай будучыні перака్налі значную частку плянэты, што цьвёрдая пазыцыя Амэрыкі ў пытаньні пра Ірак па-ранейшаму заслугоўвае міжнароднай падтрымкі. Бо ў выніку галоўным у гэтым крызысе ёсьць не Садам Хусэйн (Saddam Hussein) і нават не Ірак. Калі разабрацца, то ні першы, ні другі не ўяўляюць імгненнай небясьпекі ні для глябальнай супольнасьці, ні для саміх Злучаных Штатаў. Як слушна заўважыў прэзыдэнт Буш-малодшы 12 верасьня, "пагроза сур'ёзная й нарастальная", аднак не наўпростая.

Па-сутнасьці, у гэтым крызысе на кон пастаўлена законнасьць амэрыканскага глябальнага лідарства й эвалюцыя ўсё больш бясьпечнай міжнароднай сыстэмы. Тое, як мы прымусім Ірак паважаць міжнародныя правілы, створыць прэцэдэнт для эфэктыўнага вырашэньня падвоеных праблем распаўсюду зброі масавага зьнішчэньня й тэрарызму ў іншых кутках плянэты. Калі ў глябальным маштабе ня будзе прызнана законным амэрыканскае лідарства, якое генэруе неабходную рашучасьць для калектыўных дзеяньняў на падставе амэрыканскай магутнасьці, калі ня будзе ўсебаковага абдумваньня, якога патрабуе такое лідарства, то сьвет, хутчэй за ўсё, паступова скоціцца да гвалту, аналягічнага з законам джунгляў.

Такім чынам, шмат што залежыць ад таго, як будзе вырашаны выклік з боку Іраку. Некаторыя варыянты ўмацуюць глябальную бясьпеку. Але іншыя - не.

Можна спрагназаваць тры асноўныя варыянты:

- - Рэжым у Іраку ўрэшце рэшт падпарадкуецца, задаволіўшы ў вачах ААН і ЗША апэратыўныя патрабаваньні, вылучаныя ў рэзалюцыі Рады Бясьпекі ААН №1441: "ніякіх хлусьлівых заяваў альбо замоўчваньня" пра тое, што датычыць праграмаў распрацоўкі ўзбраеньняў, і "поўнае супрацоўніцтва" ў выкананьні гэтай рэзалюцыі.
- - Рэжым Іраку ня пойдзе на здаваленьне патрабаваньняў ААН, а таксама ЗША. Тады будзе ажыцьцяўляцца вайсковая апэрацыя пад эгідай ААН, і рэжым у Іраку будзе адхілены гвалтам.
- -ААН і ЗША прыйдуць да розных высноваў, і тады ЗША правядуць аднабаковую вайсковую апэрацыю супраць Іраку пераважна самастойна, зь некаторай міжнароднай падтрымкай.

Ясна, што першыя два варыянты падвысяць здольнасьць усясьветнай сыстэмы калектыўна дзейнічаць супраць аналягічных пагрозаў у іншых кутках плянэты. Гэта асабліва важна ва ўмовах, калі Паўночная Карэя дэманструе непадпарадкаваньне й абвесьціла пра намер валодаць ядравай зброяй. У некаторым пляне гэтае пытаньне мае нават большую тэрміновасьць, чым ірацкае. Прэстыж ЗША таксама будзе істотна ўмацаваны, бо любы з гэтых вынікаў будзе дэманстраваць амэрыканскую рашучасьць, нават калі гэта запатрабуе жыцьцяў амэрыканскіх вайскоўцаў.

Трэці варыянт дае значна менш выгодаў і пацягне за сабой патэнцыйна больш высокі палітычны кошт, тоіць у сабе небясьпеку больш моцных антыамэрыканскіх рэакцый як на Блізкім Усходзе, так і ў Эўропе. Гэты варыянт дзеяньняў можа, верагодна, пакінуць Амэрыку адну, і яна будзе адзінотна расплачвацца за ўсё ў часе балючага й дарагога пэрыяду пасьля вайны.

*************************************************

# Праз Курапаты да Свабоды

"Дарога праз Курапаты" - так называецца выпушчаная Беларускай службай Радыё "Свабода" новая кніга, якая аб'яднала ўсе журналісцкія матэрыялы на тэму абароны Курапатаў падчас рэканструкцыі менскай кружной дарогі. Большая частка гэтых матэрыялаў належыць журналістцы "Свабоды" Ганьне Соўсь, якая перадала каля 200 рэпартажаў з Курапатаў і атрымала за іх сёлета прэмію імя А.Адамовіча ад Беларускага ПЭН-цэнтру. Зборнік стаўся найпадрабязным летапісам падзеяў, што адбываліся ва ўрочышчы цягам васьмі месяцаў у 2001-2002 г.г., а таксама своеасаблівым літаратурным помнікам людзям, якія ўвесь гэты час змагаліся за Курапаты. 23-га сьнежня ўвечары ў менскім Палацы мастацтва адбылася прэзэнтацыя выданьня "Дарога праз Курапаты".

На вечарыну, зладжаную супольна Беларускай службай "Свабоды" й Беларускім ПЭН-цэнтрам, сабраліся некалькі соцень чалавек. Акрамя непасрэдных удзельнікаў валанторскае вахты, на прэзэнтацыю кнігі прыйшлі вядомыя пісьменьнікі, гісторыкі, палітыкі, журналісты, дыпляматы: усе, хто наўпрост ці апасродкавана спрычыніўся да абароны Курапатаў. "Гэта - трагічнае месца й трагічны момант нашае гісторыі, які шмат вызначае ў нашым жыцьці" - зазначыў, вітаючы прасутных, віцэ-прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру В.Тарас. Месцам, дзе людзі "баранілі заўтрашні дзень ад учорашняга" назваў Курапаты кіраўнік Беларускай службы Радыё "Свабода" А.Лукашук.

Вядоўцай вечарыны была галоўная аўтарка кнігі Ганна Соўсь: згадваючы нейкія эпізоды сваёй журналісцкай "вахты" ў Курапатах, яна запрашала на сцэну герояў уласных рэпартажаў. Яны таксама дзяліліся ўражаньнямі ад перажытага й асабістым бачаньнем пэрспэктываў далейшага існаваньня й статусу Курапатаў.

З заканчэньнем абярожнае вахты патрэба бараніць Курапаты ўсё яшчэ ня зьнікла, а толькі перайшла на іншы," кабінэтны", ўзровень. Да прыкладу, навуковая кіраўніца праекту рэканструкцыі гэтага ўчастку дарогі М. Кляшторная скрушна паведаміла, што Камітэт па ахове гісторыка-культурнае спадчыны й рэстаўрацыі пры Міністэрстве культуры нядаўна адхіліў прапанаваны Асацыяцыяй ахвяр палітычных рэпрэсіяў Праект ахоўнае зоны вакол Курапатаў. На практыцы гэта можа прывесьці да таго, што на "полі жальбы" побач з курапацкім лесам у хуткім часе паўстануць катэджы й іншыя збудовы, суседства якіх зь месцам пахаваньня ахвяраў палітрэпрэсіяў будзе зусім недарэчным.

У часе прэзэнтацыі проста з залі была наладжаная сувязь з Прагаю, адкуль у тыя хвіліны ў жывым эфіры ішла праграма "Свабоды". Журналісты зладзілі своеасаблівы экспэрымэнт: Ганна Соўсь са сцэны правяла наўпросты рэпартаж зь вечарыны, які маглі пачуць усе слухачы радыёстанцыі. У праграме таксама прагучэў зварот да абаронцаў Курапатаў В.Быкава. Пісьменьнік падзякаваў маладым людзям за тое, што яны "абаранілі памяць пра зло й крываве злачынства супраць нацыі", нягледзячы на ўсе спробы бальшавіцкіх спадкаемцаў сьцерці гэтую памяць назаўжды.

Са сцэны прамаўлялі лідар БПС С.Высоцкі, кіраўнік Маладога фронту П.Севярынец, намесьнік старшыні партыі БНФ В.Сіўчык, актывіст ініцыятывы "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты" В.Арэшка, гісторык і археоляг М.Крывальцэвіч, мастак А.Марачкін ды іншыя. Нельга сказаць, што выступоўцы былі адзінадушнымі ў ацэнцы зробленага імі. Адныя казалі, што Курапаты сталі той рысай, якая канчаткова аддзяліла "старую плыню апазыцыі" ад "новай". Іншыя ж, наадварот, імкнуліся знайсьці аб'яднаўчыя моманты ў гісторыі абароны Курапатаў.

Аднак усе яны аддалі належнае працы журналістаў з гэтай няпростаю тэмай, якія прыцягнулі да яе ўвагу ў Беларусі й сьвеце - і тым самым дапамаглі абараніць Курапаты.

# ЧАРГОВЫ АКТ ВАНДАЛІЗМУ Ў КУРАПАТАХ

У Курапатах невядомыя вандалы разбурылі некалькі дзясяткаў крыжоў і пашкодзілі мэмарыяльны знак "Ад народу Злучаных Штатаў Амэрыкі народу Беларусі дзеля памяці".

Ганна Соусь, Менск Стоячы на Курапацкім пагорку, я налічыла каля дванцаці парушаных крыжоў. Сярод іх крыж ад архіепіскапа Юрыя Рыжага зь Беларускай Аўтакефальнай праваслаўнай царквы, крыж з Талачына, крыжы, якія былі ўсталяваныя на ямінах-магілах, Невядомыя вандалы пашкодзілі й мэмарыяльны знак, гэтак званую "лаву Клінтана", твор скульптара Алеся Шатэрніка. Ад яго адарвалі мармуравую пліту, на якой была зьмешчаная інфармацыя пра тое, што гэты помнік быў усталяваны ў Курапатах амэрыканскім прэзыдэнтам Білам Клінтанам, што ў жніўні 2001 году пліту разбурылі невядомыя вандалы, а ў студзені 2002 году помнік быў адноўлены.

Мармуравая пліта была адкінутая на дзесяць мэтраў ад лавы. Яна прымерзла да зямлі. Усе сьляды вандалаў былі занесеныя сьнегам, аднак захаваліся сьляды ад колаў машынаў, якія заяжджалі на курапацкі пагорак.

Ва ўрочышчы я сустрэла Рацібора Бягуна, ён жыве недалёк і вельмі часта бывае ў Курапатах. Сёньня ён быў проста ў шоку ад убачанага. Мы стаім разам зь ім ля "лавы Клінтана".

"Гэтую пліту сарвалі вандалы, на жаль, невядомыя пакуль што. На месцы гэтай пліты яны пакінулі фартушкі, пазрываныя з крыжоў. Наколькі мне вядома, фартушкі гэтыя зрабілі дзеці. Яны ўпрыгожвалі крыжы ў Курапатах...

Учынены проста вялізны акт вандалізму. Вялікая колькасьць крыжоў зламаная, як каталіцкіх, гэтак і праваслаўных. Проста жудасна зараз... Нават няма словаў, каб выразіць увесь гэты боль!

Адчуваецца, што гэта добра сплянаваная акцыя, у якой удзельнічала вельмі шмат людзей, бо адзін чалавек наўрад ці такое мог зрабіць. Мабыць, упершыню такое разбурэньне тут".

"А з чым Вы гэтае зьвязваеце?"

"Я зьвязваю гэта з прэзэнтацыяй кнігі "Дарога праз Курапаты". На ёй было вельмі шмат словаў сказана пра Курапаты, пра абаронцаў Курапатаў. Гаварылася, што вельмі шмат было дасягнута, што сапраўды абаранілі, сапраўды стварылі Народны мэмарыял. І вось гэта, мабыць, адказ".

Рацібор Бягун мяркуе, што акт вандалізму адбыўся хутчэй за ўсё ўначы з 24 на 25 сьнежня — у Нараджэньне Хрыстовае. Бо сёньня ён сустрэў у Курапатах жанчыну, якая жыве ў доме паблізу, і тая паведаміла яму, што ўпершыню заўважыла разбурэньні ўранку 25 сьнежня. У зьвязку з тым, што адбылося ў Курапатах, Рацібор Бягун зьбіраецца зьвярнуцца ў міліцыю.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

======================

# НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ...

**Мы атрымалі наступныя выданьні:**

1. **Czasapis**, Беларускі грамадзка-культурны месячнік у Польшчы. № 12, Беласток, 2002, 44 бач.
2. **Роднае Слова**, №11, 2002, Менск, 114 бач.
3. **Ня жаль пражытага.** Сакрат Яновіч. Беласток, 2002. 188 бач.
4. **Литературная классика в диалоге культур.** Тэзісы да Міжнароднай навуковай канфэрэнцыі, прысьвечанай 120-годзьдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа. Масква, 2002, 100 бач.

# Белае і чорнае. Літаратура безвыходнасьці

Сяргей Дубавец, Вільня

Надоечы, узяўшы ў рукі кнігу, зусім не для працы ці – каб быць "у курсе літаратурнага працэсу", а так, пачытаць, я задумаўся над просьценькім пытаньнем – навошта? На што я разьлічваю? Адказаў назьбіралася процьма, але ўсе яны ўрэшце зьвяліся да таго, каб зьверыць свой унутраны гадзіньнік. Кнігі паказваюць эталённы ўнутраны час. Бываюць, натуральна, і такія, што хібяць або наагул "спыніліся". Але сёньня гаворка не пра іх, а пра тыя, што мы асэнсавана паставілі на паліцу, каб раз за разам зазіраць у іх. І гэтаксама як слоўнікі ды энцыкляпэдыі дазваляюць нам зьверыць факты, гэтаксама кнігі майстроў слова даюць магчымасьць спраўдзіць тую інтанацыю і тое адчуваньне жыцьця, якое пульсуе недзе ў падсьведамасьці. Кніга прымусіць задумацца, але ніколі не прынізіць і ня зьнішчыць цябе. Наадварот, найлепшыя кнігі дораць надзею і новую цікавасьць да жыцьця – тое, што яшчэ называюць душэўнаю сілай. Нездарма лічыцца, дый праверана неаднойчы, што, пераехаўшы ў новае жытло, дзе раней жылі іншыя людзі, трэба там як сьлед начытацца. І тады адбудзецца прысваеньне гэтага жытла, а чужыя і благія для цябе флюіды прападуць.

У гэтым сэнсе кніга – унікальная рэч, і ніякі іншы культурны прадукт яе не заменіць. У сёньняшняй перадачы гаворка пойдзе пра кнігі беларускіх майстроў слова – нашых сучасьнікаў і такую зьяву апошняга дзесяцігодзьдзя, як літаратура безнадзейнасьці

******

Напрыканцы мінулага стагодзьдзя ў беларускай літаратуры адбыўся разварот на 180 градусаў – ад "абяленьня" рэчаіснасьці, як сказалі б цяпер, да яе "ачарненьня", як сказалі б тады. На зьмену канонам сацыялістычнага рэалізму, між якіх галоўнымі былі завышаная гераізацыя, фальшаваньне фактаў гісторыі і ружовы аптымізм, прыйшла літаратура, у якой зусім ня стала герояў, а былі толькі ахвяры і каты, дзе праўда савецкага часу паказвалася самай змрочнай сваёй знаніцай, дзе запанаваў дух поўнай безвыходнасьці і безнадзейнасьці. Найлепшыя творы 90-х гадоў, што выйшлі з-пад пяра Алеся Адамовіча, Вячаслава Адамчыка, Васіля Быкава ды іншых празаікаў – менавіта такія. Яны – ня тое, каб трагедыі, здольныя выклікаць катарсіс. Яны кажуць, што катарсісу няма. Гэтыя творы ўжо сталі клясыкай нядаўняга часу, але нельга сказаць, што ў гэтых канонаў ёсьць пэрспэктыва. "Ачарненьне" было сымэтрычным адказам на савецкае "абяленьне". І гэты адказ прагучаў. Сымбалічна закрыла гэтую тэму новая кніга Вячаслава Адамчыка. Яна – нібы Post Scriptum – наўздагон падводзіць рысу літаратуры безвыходнасьці.

Адначасова кніга "Нязрушаны камень" – гэта Post Scriptum жыцьця і творчасьці пісьменьніка. У ёй сабраныя некалькі апошніх апавяданьняў; крыху ўспамінаў – найбольш істотных, як на сёньняшні дзень; сфармуляванае жыцьцёвае крэда – таксама ў сваёй апошняй рэдакцыі, без самацэнзуры і недагаворак, абысьціся безь якіх раней было немагчыма. Завяршаецца выданьне дадаткам, занатоўкамі сына – Адама Глёбуса – пра бацьку і маці.

Зусім зграбнае, густоўнае выданьне, такія звычайна прачытваюцца за пару гадзін, а потым неаднойчы здымаюцца з паліцы, не дзеля ўдакладненьня фактаў, як энцыкляпэдыі, а як даведнікі настрою – дзеля праверкі трывушчасьці твайго ўласнага крэда. Кніга пераканаўчая, бо за ёй стаіць усё жыцьцё чалавека, які здолеў нямала зразумець і распавесьці пра гэта. Звычайна такія выданьні добра надаюцца як арыенціры ў пару станаўленьня. Так як для самога Адамчыка вызначальнымі сталі кнігі Антона Луцкевіча і Адама Станкевіча. Цяпер іншы час, іншыя паліграфічныя магчымасьці, і мабыць менавіта так, як гэты Адамчыкаў зборнік, мусіць выглядаць сёньня кніга, што выклікае да сябе гэткае ж стаўленьне, як некалі – заходнебеларускія брашуры "Адбітае жыцьцё" альбо "Беларуская мова ў сьвятынях". Я задумляюся, што гэта, і знаходжу: выданьне, за якім стаяць простыя матывацыі. Аўтар "Чужой бацькаўшчыны" пакінуў гэты сьвет крыху больш за год таму, і ягоныя сыны выдалі ягоную апошнюю кнігу.

Гаворачы пра матывацыі, маю на ўвазе тое, што сёньня за новай кнігай, як правіла, зьбіраецца цэлая хмара дачыненьняў – фінансавых, маральных, сытуацыйных – і гэтая хмара іншы раз затуляе сабою "простыя рэчы і простыя словы". Скажам, многія кнігі выходзяць у сьвет толькі таму, што на іх знаходзіцца фінансаваньне, а не таму, што яны, кнігі, ёсьць, і ўжо ў гэтым дастатковая іхная вартасьць.

З уражаньняў ад прачытанага ў Вячаслава Адамчыка вазьму толькі адно, якое міжволі падказвае аўтар, але тычыцца якое, бадай, усёй сучаснай літаратуры. Жорсткая праўда мінулай вайны (а цяпер гэта ўжо зусім ня нашы і немцы, гэта найчасьцей якраз нашы і нашы, што забіваюць адны адных) і фаталізм, безвыходнасьць сытуацыяў, непазьбежнасьць трагічнага канца. Або – нашы як абсалютныя ахвяры і тыя як абсалютныя каты.

Поўная і абсалютная непазьбежнасьць пагібелі пэрсанажа ў пісьменьнікаў старэйшага пакаленьня тлумачыцца іхным уласным лёсам, які прывучыў заўсёды спадзявацца на горшае, у якое б лепшае ты пры гэтым ня верыў. Гэта прышчэпленая вясковым выхаваньнем боязь суроку, якая пасьля сотні разоў пацьвярджалася ў самых розных сытуацыях ды эпізодах біяграфіяў нашых аўтараў.

Мне думаецца, што ў новым, 21-м стагодзьдзі так пісаць ня будзе ўжо ніхто й ніколі. Мастацкая літаратура ня можа не паказваць выйсьця і быць пазбаўленай хоць якога пазытыву.

Сапраўды, яшчэ колькі гадоў таму было важна сказаць праўду гісторыі, праўду фактаў, прыўнесьці яе у абсягі прыгожага пісьменства. Пра тое, як савецкія партызаны нішчылі бязьвінных людзей, як русіфікатары забівалі беларусаў, як беларусы аказаліся нацкаванымі на беларусаў, ня могучы зразумець адны адных. А галоўнае – пра тое, што для беларусаў мінулая вайна ні зь якога боку не была сваёй. Суб'екты вайны – людзі са зброяй – нідзе і ніколі не прадстаўлялі нашыя нацыянальныя інтарэсы. Беларусы маглі ствараць пад немцамі школы, разумеючы, што вайна – вайною, але новае пакаленьне ня мусіць расьці без адукацыі. І адразу рабіліся аб'ектам партызанскіх набегаў...

Уцёкі ад сацрэалістычнай хлусьні настолькі адчайныя і рашучыя, што абяртаюцца ўцёкамі ад мастацкага вымыслу як такога. П'янкая свабода выказваньня ўсяго, што было забаронена ўчора, змушае сьпяшацца прагаварыць самае галоўнае. Але пры гэтым прыгожае пісьменства пачынае выглядаць як палова цэлага. Прасьцей кажучы, у ім бракуе пазытыўнае інтанацыі.

Нехта скажа: ці ня гэтак было ў пару сацыялістычнага рэалізму, калі крытыка патрабавала станоўчага героя, а калі не знаходзіла яго, кляйміла творы як упадніцкія ці абстрактна гуманістычныя. Але гэта ня так. Гаворка ідзе не пра асноўны прынцып сацрэалізму – канфлікт добрага і лепшага. Гаворка ідзе пра канфлікт дабра і зла. Што да твораў, пра якія мы гаворым сёньня, дык зло ў іх – усемагутнае, непазьбежнае і безальтэрнатыўнае, фатальнае. А дабро цалкам бездапаможнае, асуджанае.

Адчуваньне сьвятла ў канцы тунэлю абсалютна неабходнае па прачытаньні мастацкага твору. Яно бывае вельмі рознае гэтае адчуваньне. Бывае радаснае, бывае крытычнае – калі ты гатовы аспрэчыць пісьменьніка, бывае канструктыўнае – калі бачыш, як усё мусіць складацца далей, каб было найлепей. Такое адчуваньне і даюць пазытыўныя героі, калізіі, нават проста настрой. Цяжка адкладаць кнігу зь цёмным пачуцьцём безвыходнасьці і безнадзейнасьці гэтага жыцьця і сьвету.

Адказам на завышаную і несправядлівую гераізацыю савецкае літаратуры, у літаратуры безнадзейнасьці стала поўная адсутнасьць героя. Замест яго тут – пэрсанажы: актыўныя і дужыя каты і іх бездапаможныя ахвяры. Ахвяры праходзяць усе колы зямнога пекла і гінуць або прападаюць бязь вестак. Як тая Вэнэра, якой Алесь Адамовіч прысьвяціў цэлую аповесьць, урэшце назаўсёды зьнікае недзе ў ГУЛАГу.

За час расповеду-падарожжа ў гэтым вузкім і доўгім шэрабэтонным калідоры Вэнэрынага лёсу не сустракаецца ані намёку, ані водбліску, ані атожылка хоць нейкай альтэрнатывы. Гэтым аўтар падкрэсьлівае, што тады, за Сталінам, у лёсе нармальнага, пазытыўнага чалавека ніякай альтэрнатывы быць не магло. Ягоны лёс – перад вайною, у вайну і пасьля вайны – фатальны. Вось гэты фатальны асінавы кол Адамовіч і заганяе наўздагон у самае сэрца савецкага ладу.

У Васіля Быкава ў 90-я гады, хоць бы і ў "Ваўчынай яме", такі самы асінавы кол забіваецца ўжо ў постсавецкую рэальнасьць. Ня можа быць альтэрнатывы пакутам і пагібелі пэрсанажаў, пакуль не абраная альтэрнатыва гэтаму ладу.

Можна ўгледзець тут і старыя беларускія літаратурныя традыцыі – яшчэ ад Багдановіча і Купалы – цёмны народ, забраны край, кат на троне... Але Купалавы вершы мусілі выклікаць катарсіс. А ў аўтараў літаратуры безнадзейнасьці атрымаліся дарожныя знакі бяды на фатальнай пуцявіне нацыянальнага лёсу. І адзінае пачуцьцё, якое выносіць чытач, адзіная палёгка: Божа, як добра, што нас там і ў той час не было! Гэта ў тым выпадку, калі безнадзёга ня едзе з вамі побач у адным вагоне мэтро...

У адрозьненьне ад Адамовіча і Быкава, Адамчык – толькі прафэсійны пісьменьнік, а ня нехта больш – не палітык і не духоўны лідэр нацыі. Таму нейкія нават фармальныя законы рамяства змагаюцца ў яго з поўнай безнадзёгай, праўда, малаэфэктыўна.

Першае ж апавяданьне ў ягонай кнізе – "Прылёт кажана" – зь першых радкоў вяшчуе змрочны працяг: "Іх было пяцёра, сьмярдзючых ад тытуню і самагоннага перагару дужых мужчын, на яе адну, кволую, як падлетак, зь вялікімі перапалоханымі вачыма маладую настаўніцу".

Пасьля такога зачыну самае простае і быццам лягічнае – чакаць сцэны гвалту і забойства. Хоць насамрэч такі варыянт разьвіцьця падзеяў вычарпаны ўжо гэтым, першым сказам. Мы чакаем павароту, які зьменіць фатальны зьбег акалічнасьцяў, прымусіць яго выйсьці на іншае і, можа быць, шчасьлівае завяршэньне. Бо гаворка ідзе пра мастацтва і пра жыцьцё, у якіх заўсёды ёсьць месца ня толькі фатальнаму канцу.

Васіль Быкаў у сваіх успамінах распавядае, як шматкроць літаральна цудам пазьбягаў сьмерці. Але гэта дакумэнтальныя ўспаміны. У мастацкім творы выпісаць такі цуд праўдападобна – шмат цяжэй, чым пераказаць праўду фактаў, яшчэ й падмацаваную аўтарытэтам апавядальніка.

Словам, калі ў навэле заяўлены гвалт і забойства, гэта зусім ня значыць, што так і будзе. Урэшце, зусім не таго чакае чытач. Дабро мусіць перамагаць, інакш, зь якім духоўным багажом жыць далей і дзе чэрпаць сілы і веру, каб самім супрацьстаяць несправядлівасьці і гвалту?

Але ўстаноўка на безнадзейнасьць перамагае. У тым жыцьці – кажа аўтар – было месца толькі для фатальнага канца. А было тое за нямецкай акупацыяй. І тыя пяцёра – савецкія партызаны – тую маладзенькую настаўніцу беларускай пачатковай школкі згвалтавалі і забілі. Фармальна – бо школка дзейнічала пад нямецкай уладай, а ў глыбіні душы – ад нянавісьці да ўсяго беларускага.

Вось і ўся навэла. Зрэшты, ня ўся. Як прафэсійны літаратар, Адамчык абачліва назваў яе "недапісанай навэлай". І яшчэ пакінуў у тэксьце адзін намёк-водбліск таго, што ўсё магло быць інакш. Гэта калі тая настаўніца толькі прыяжджае з гораду ў вёску – на верную пагібель ад партызанскай рукі – яе кліча да сябе на жыхарства тутэйшы селянін-багатыр, які да таго ж дэкляруе ёй сваё заступніцтва. Але яна адмовілася і пасялілася адна. Прызнацца, да канца навэлы, пакуль доўжылася партызанскае бясчынства, чакалася, што зьявіцца той багатыр і калі не ўратуе, дык хоць паспрабуе... Павінен жа быць шанец і шанцунак. Урэшце, мусіць у той вайне зьявіцца пазытыўны беларускі вобраз, не адныя ахвяры ды каты. Але, мабыць, яшчэ не пара.

Адамчык нібы сьпяшаецца запоўніць лакуны гісторыі, якія дагэтуль не чапала наша проза. Во як па-зьверску савецкія партызаны нішчылі беларускія школкі, а во якія бесчалавечныя былі асабісты-энкавэдысты... ...

Фатальнасьць зыходу апаноўвае творцу і выходзіць за межы ваеннага часу, пашыраецца і на творы пра сёньняшні дзень. Таму мы і гаворым пра безнадзейнасьць не як пра тэму, а як пра мэтад.

Вось стары эмігрант прыяжджае на адведкі ў родную вёску і не знаходзіць тут зусім нікога і нічога, што падобраму нагадала б пра дзяцінства. Хіба што каменьвалун, які раней ляжаў пасярод поля, а цяпер апынуўся на тым самым месцы – пасярод лесу. А яшчэ сустракаецца эмігранту такі самы дзед, які яго моцна пакрыўдзіў у маладосьці. Ну што, давай хоць перад сьмерцю памірымся?.. Не, не прайшла крыўда. Цяпер ужо ня пройдзе ніколі. Наадварот, яна толькі зацьвярдзела з гадамі. Вось і ўсё, што знайшоў эмігрант на радзіме – сваю крыўду, непахісную, як той камень. А вось былы вясковец, а цяпер менскі бомж, які перабіваецца на падабраных бутэльках і ўрэшце зусім выпадкова гіне ад амонаўскіх пабояў на апазыцыйнай дэманстрацыі. Тут выпадковасьць толькі падкрэсьлівае фатальны канец. Безвыходнасьць і безнадзейнасьць апаноўваюць увесь сьвет – вёску, горад, учора, сёньня... Нават апісаньні краявідаў – прыглушаныя, быццам соты раз ходжаныя. Нішто ня мусіць парушаць агульнага фаталізму.

Трэба сказаць, што безнадзейнасьць у творах розных пісьменьнікаў розная. У Быкава фаталізм стушоўваецца выразнай прадуманасьцю канвы і герояў, большай жывапіснасьцю, мастацкасьцю, гэта значыць, умоўнасьцю карцінаў. У Адамовіча фаталізм хаваецца за аўтарскімі філязофскімі альбо газэтнымі адступленьнямі, дзеля якіх у творы ніколі не прысутнічае нейкая адна рэальнасьць. У апавяданьнях Адамчыка, нібы падкрэсьлена дакумэнтальных, дзе ёсьць строгае адзінства часу і месца дзеяньня, фаталізм выяўляецца зусім адкрыта.

Урэшце, выходзіць так, што найбольш пазытыўны пэрсанаж тут – гэта сам аўтар, а найбольш пазытыўная рэальнасьць – гэта рэальнасьць не мастацкая, не прыдуманая, а сапраўдная. Мы ніколі ня станем параўноўваць сябе з пэрсанажамі апавяданьняў, бо іх учынкі альбо асуджаныя, альбо пасіўныя альбо брыдкія. Затое пярэчаньне студэнта Адамчыка кагэбісту ў часе "гутаркі", ягонае выключэньне з унівэрсытэту і абсалютная вера ў літаратурную творчасьць – пра што гаворка ва ўспамінах – гэта і ёсьць той жаданы пазытыў. Прынамсі, у кнізе "Нязрушаны камень" гэта найбольш моцная пазытыўная інтанацыя.

Што да філязофскай пазыцыі аўтара, дык, як і ў Васіля Быкава, яна хутчэй пэсымістычная, чым аптымістычная.

"Якая, зрэшты, безнадзейнасьць – зварот да праўдзівай незалежнасьці ня бачыцца і ў далёкім абсягу" – ускліквае пісьменьнік, і ў словах гэтых мы чуем непрыхаваную роспач расчараваньня.

Праўда, Адамчык ня хоча пакідаць нас у гэткім настрої поўнай безнадзёгі і кажа мудрыя словы, у якія варта ўдумацца любому беларускаму чалавеку:

"Асьцерагаюся, каб мы не заплацілі вялікай цаны за сваю абыякавасьць да ўсяго нацыянальнага і не прынесьлі бяды і шкоды нашым будучым пакаленьням. Але я ўтаймую сваю крыўду і адчай. Застануся зь непахісным і нязрушным спадзяваньнем у душы. Так лепш – жыць з надзеяй".

******

Літаратура безнадзейнасьці стала важным, але этапам у творчасьці майстроў слова. Такіх пісьменьнікаў як Адамовіч, Адамчык ці Быкаў чытаеш кожнага разу у кантэксьце асобаў і ўсёй іхнай творчасьці. Таму адчуваньне, што гэта толькі палова літаратуры, стушоўваецца ў сьвятле ранейшых і наступных твораў. Цяжка ўявіць, каб у такіх канонах нехта толькі пачынаў сваю творчасьць. І таму малаверагодна, што літаратура безнадзейнасьці будзе мець свой працяг. У агульнафілязофскім сэнсе гіпэртрафавана чорны адказ на гіпэртрафаванае абяленьне рэчаіснасьці ўжо прагучаў. Няма сумневу, што эвалюцыйна ён быў непазьбежны і неабходны. Цяпер – слова іншым колерам спэктру.

Літаратуры давядзецца нямала пазмагацца, бо самое паняцьце пазытыўнага героя і пазытыўнае інтанацыі сёньня ледзьве не прыватызаванае маскультурай, супраць якой так рашуча выступае Васіль Быкаў. Але самая прырода пазытыўнага ў кнізе адрозьніваецца ад пазытыўнага ў галівудзкім фільме ці тэлевізійным шоў. Некалі нехта непазьбежна выпіша і такога героя, і такую інтанацыю па-беларуску. Добра было б, каб гэта зрабіў сам майстар. Бо падобны сучасны досьвед абсалютна неабходны. Інакш, зь якім духоўным багажом жыць далей і дзе чэрпаць сілы і веру, якія мы прызвычаіліся знаходзіць у кнігах, дзеля чаго і бярэм іх у рукі, дзеля чаго і чытаем.

***************************************************

# Ведаў, што ня вернецца

**У сьнежні 1942 г. у Менску бясьсьледна зьнік ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі. Ён быў затрыманы супрацоўнікамі СД і вывезены ў невядомым кірунку.**

Яшчэ нейкі час была слабая надзея, што а.Вінцэнт жывы і знаходзіцца ў турме СД, пакуль не высьветлілася, што Гадлеўскі расстраляны. Амаль 60 гадоў заставаліся невядомыя абставіны яго най гібелі, і толькі ў 2001 г. гэтая таямніца была прыадкрытая. Сьвятар, што загінуў пакутніцкай сьмерцю, магчыма, будзе бэатыфікаваны.

## Сьвятар, палітык, выдавец

Вінцэнт Гадлеўскі... Сьветлая згадка прадвесьня незалежнасьці Беларусі. Ён з тых адраджэнцаў, якіх ідэя дзяржаваства рэньня адухаўляла годна рабіць усё, што выпадала на іх змагарніцкі лёс у той гістарычны прабег часу ад пачатку XX ст.

Гадлеўскі быў сябрам Рады БНР, ад вясны 1918-га займаўся душпастырскай дзейнасьцю ў Менску, дамогся вядзеньня набажэнстваў па-беларуску. У 1920—30-я гады жыў у Заходняй Беларусі, быў адным зь лідэраў Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, знаходзіўся ў турэмным зьняволеньні за беларускую справу. Гадлеўскі пераклаў і выдаў "Новы Тэстамэнт" на беларускую мову, а таксама шэраг іншых рэлігійных кніг, шмат друкаваўся, пераважна пад псэўданімамі, у віленскіх беларускіх газэтах і часопісах. У 1930-я ён выдаваў газэту "Беларускі фронт" і стварыў аднайменнае незалежніцкае аб'яднаньне.

## Падпольная барацьба

Зь верасьня 1941 г. Вінцэнт Гадлеўскі працуе галоўным школьным інспэктарам у генэральным камісарыяце "Беларусь". Немцы ўважліва сачылі за беларускім рухам. Спэцслужбы праз сваю агентуру нешта даведаліся пра дзейнасьць беларускага незалежніцкага падпольнага руху. Нацысты імкнуліся знайсьці ягоныя арганізацыйныя цэнтры, якія пакідалі свае "сьляды" ў антыфашыстоўскіх улётках і друках. Аднак выявіць гэтыя цэнтры было немагчыма, бо іх папросту не існавала. Беларуская незалежніцкая партыя (БНП) і іншыя незалежніцкія арганізацыі не былі структураванымі партыямі. Гэта быў ідэйна-палітычны рух за аднаўленьне незалежнасьці Беларусі. Адным зь яго лідэраў быў В.Гадлеўскі.

Напрыканцы лета і ўвосень 1942 г. нямецкія спэцслужбы пачалі наўздагад вынішчаць найбольш пасьлядоўных і адметных прыхільнікаў беларускай нацыянальнай ідэі. Былі арыштаваны і зьнішчаны ксяндзы Глякоўскі, Малец, Глябовіч, экзарх Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы Неманцэвіч, пазьней былі забітыя, часам пры "загадкавых абставінах", Юльян Саковіч, Вацлаў Іваноўскі, Адам Дасюкевіч, Францішак Аляхновіч ды інш.

17 сьнежня 1942-га, у гадавіну Ўсебеларускага зьезду 1917 г., у Менску зьбіраецца група беларускай дзеячоў. У час урачыстай прамовы В.Гадлеўскага раптам гасьне электрычнае сьвятло, і паседжаньне працягваецца пры запаленых сьвечках — пра гэтую акалічнасьць пазьней удзельнікі ўзгадвалі як пра злавесную прыкмету...

## Арышт

А 20-й гадзіне 24 сьнежня 1942 г., напярэдадні калядной ночы, у менскую кватэру В.Гадлеўскага ўвайшлі начальнік аддзела SSPF (паліцыі бясьпекі і СД) Менску Г.Хойзэр і перакладчык. Яны паведамілі гаспадару, што ён павінен тэрмінова выехаць у Бэрлін, а перад тым завітаць зь імі ў менскую катэдру на пляцы Волі і ў касьцёл Сьв.Сымона і Алены дзеля выкананьня пэўных фармальнасьцяў.

В.Гадлеўскі быў дастаткова дасьведчаны ў дачыненьнях з акупацыйнымі службамі бясьпекі. Напярэдадні ён спрабаваў атрымаць дазвол ад акупацыйных уладаў на выезд у Варшаву па грамадзкіх і сьвятарскіх справах, але яму неадназрозова бяз дай прычыны адмаўлялі. Нечаканую прапанову "паехаць тэрмінова ў Бэрлін" Гадлеўскі ўспрыняў як арышт.

## Разьвітаньне з Ігнатавічусам

У касьцёл Сьв.Сымона і Алены Хойзэр прывёз В.Гадлеўскага, каб той засьведчыў перад тамтэйшым сьвятаром Зянонам Ігнатавічусам, што "добраахвотна" ад'яжджае зь Менску — гэта быў бы адказ і вернікам, заклапочаным зьнікненьнем сьвятара. Аднак кс. Ігнатавічус зь перакладчыкам разумелі, які фінал чакае В.Гадлеўскага. Усё разумеў і ён сам. Але ніхто зь іх ня даў Г.Хойзэру падставаў гэта заўважыць.

Літоўскі сьвятар адразу ўбачыў, што ў паводзінах В.Гадлеўскага "было нешта незвычайнае і што яго добры (з прычыны ад'езду — аўт.) настрой рабіў ненатуральнае ўражаньне". На судзе ў 1963 г. у Кобленцы, падчас разгляду крымінальнай справы Г. Хойзэра, было высьветлена, што В. Гадлеўскі "намагаўся не паказаць сваёй боязі, што зь ім нешта здарылася, каб утрымаць ксяндза (Ігнатавічуса — аўт.) ад непрадуманага ўчынку, які лёгка мог пашкодзіць і яму самому". Далей адзначалася, што "пры гэтым Гадлеўскі, магчыма, утрываў свой паказны, зусім не сапраўдны настрой".

Паміж Гадлеўскім і Ігнатавічусам, у прысутнасьці Хойзэра, адбылася кароткая размова. В.Гадлеўскі сказаў, што павінен ехаць у Нямеччыну. Ігнатавічус пацікавіўся, колькі часу ён будзе адсутнічаць. "Можа, тыдні са два", — сказаў Гадлеўскі. Ён папрасіў літоўскага ксяндза служыць за яго імшу ў касьцёле Найсьвяцейшае Панны Марыі й сказаць людзям, што ён вернецца...

Усе сумневы ў кс. Ігнатавічуса наконт лёсу Гадлеўскага былі зьнятыя, калі яму ўдалося незаўважна для Хойзэра спытаць у перакладчыка, ці сапраўды беларускі сьвятар хутка вернецца. Той выразным жэстам паказаў, што не...

## Стрэл у Благоўшчыне

Каля 21-й ад Чырвонага касьцёлу ад'ехаў легкавік: за рулём быў шэф менскіх турмаў СД і Трасьцянецкага лягеру сьмерці Г.Хойзэр, а ззаду, здавалася б, мірна гутарылі "ні аб чым" Гадлеўскі й перакладчык. Аднак між імі завісла напружанасьць. Перакладчык атрымаў загад ад Хойзэра сачыць за сьвятаром, каб ён "ня выкінуў чагосьці з машыны".

Легкавік мінуў чыгуначны вакзал і накіраваўся да Магілёўскай шашы, якая пачыналася ў той час прыкладна ад тэрыторыі цяперашняга аўтазаводу. Паабапал дарогі быў лес, потым справа за колькі сотняў мэтраў мільганулі яркія агні. Гадлеўскі мусіў ведаць, што гэта Трасьцянецкі лягер, абнесены шасьцю шэрагамі калючага дроту, — усё адмыслова асьветленае электрычнасьцю. Можна здагадвацца, што было ў думках сьвятара, але з выгляду ён заставаўся спакойны і не выказваў трывогі.

Машына павярнула налева і спынілася ў цемры зімовай ночы.

Гэта быў аб'ект нацыстаў — урочышча Благоўшчына, паляна прыкладна 300 на 400 м, абгароджаная калючым дротам, якую ахоўваў спэцыяльны аддзел СС. Аб'ект быў настолькі сакрэтны, што савецкая выведка даведалася пра яго толькі ў ліпені 1944-га. Тут ад вясны 1942 г. да позьняй восені 1943 г. былі забітыя і патаемна пахаваныя ў 34 равах-магілах ня меней як 150 тыс. вязьняў нацысцкіх турмаў, лягераў і гета, а таксама ахвяры гітлераўскага тэрору ў Менску. Цягам доўгіх зімовых месяцаў 1943—44 г. у спробе схаваць сьляды злачынстваў усе пахаваньні былі зруйнаваныя, а трупы спаленыя і зноў тутсама перазахаваныя — у адпаведнасьці са звышсакрэтным загадам Гімлера.

А ў той вечар 24 сьнежня 1942 г. Хойзэр прывёз у Благоўшчыну новую ахвяру. Як сьведчыў у 1963 г. на судзе былы перакладчык СД Р., нацыст загадаў яму заставацца ў машыне, а сам выйшаў са сьвятаром вонкі. Яны адышлі на колькі дзясяткаў крокаў. Шчоўкнуў пісталетны стрэл... У машыну Хойзэр вярнуўся адзін, сеў за руль і ад'ехаў. У гэты час Р. бачыў, як у цемры прабеглі некалькі чалавек: паводле яго меркаваньня, яны "павінны былі прыбраць труп"...

Суд прысяжных у Кобленцы прыйшоў да высновы, што "ў момант злачынства сьвятар Гадлеўскі разумеў, што плянуецца замах на яго жыцьцё", але "да апошняга моманту паводзіў сябе спакойна і стрымана" і "вырашыў скарыцца перад лёсам". Хойзэр не прызнаў факту забойства ім В.Гадлеўскага, як і шэрагу іншых злачынстваў падчас акупацыі Беларусі, і не назваў тых, хто аддаваў адпаведны загад. Аднак можна здагадвацца, што загад на зьнішчэньне Гадлеўскага прыйшоў з Бэрліну. Суд прызнаў, што "прычыну і падкладку забойства немагчыма вызначыць дакладна: можна толькі здагадвацца, што гібель варта разглядаць у сувязі зь яго палітычнай дзейнасьцю ў БНС, якую СД расцэньвала як дзяржаўную здраду". Насамрэч, галоўнай прычынай зьнішчэньня нацыстамі В.Гадлеўскага было яго кіроўнае становішча ў беларускім антыфашыстоўскім Супраціве...

Кс. Уладыслаў Завальнюк,
Яўген Цумараў. (Н.Н.)

# Янка Барысік — беларускі ваяр

На 2003 год прыпадаюць 100-ыя ўгодкі з дня нараджэньня беларускага вайскоўца-дэсантніка Янкі Барысіка.

Ён нарадзіўся ў 1903 годзе ў вёсцы Азарычы на Слонімшчыне. У 1920-ыя гады Янка быў сьведкам, а, магчыма, і ўдзельнікам беларускай нацыянальна-вызвольнай барацьбы пад польскай акупацыяй. Сяляне цэлымі вёскамі запісваліся ў Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду, якая змагалася за іх нацыянальныя і сацыяльныя правы. Польскія ўлады жорстка падавілі ўздым беларускага нацыянальнага руху, амаль усе арганізацыі й партыі забаранілі, беларускія школы пазачынялі, беларускую зямлю аддавалі польскім асаднікам. Усё гэта адбывалася на вачах беларускай моладзі, якая марыла пра вольнае й незалежнае жыцьцё, якая ненавідзела акупантаў — палякаў, а пазьней пабачыць антычалавечую сутнасьць бальшавіцкай улады.

Падчас нямецкай акупацыі беларускія патрыёты скарысталіся з сытуацыі, калі немцы дазволілі стварэньне беларускіх вайсковых аддзелаў. Было вырашана ўзяць у немцаў зброю і арганізоўваць беларускую армію — найперш, для абароны ўласнага народу. Летам 1942 году ў Слоніме за кароткі час паўстала Слонімская брыгада Беларускай Самаахованы. Немцы, спалохаўшыся яе колькаснага росту і сілы, брыгаду раззброілі. Усё гэта адбывалася на вачах у Янкі Барысіка, маладога беларускага вайскоўца. 19 жніўня 1942 г. ён скончыў першы афіцэрскі курс Беларускай Самааховы ў Менску й быў накіраваны для праходжаньня службы ў Слонімскую акругу. У той час беларускія вайсковыя фармацыі Слонімшчыны лічыліся лепшымі ў Заходняй Беларусі.

Летам 1944 году Янка Барысік трапляе ў беларускі дэсантны батальён "Дальвіц" ва Ўсходняй Прусіі, дзе рыхтаваліся камандзірскія кадры беларускай партызанкі. Зусім магчыма, што ў "Дальвіцы" Барысік стаўся (калі ня быў ужо раней) сябрам падпольнай антыфашыстоўскай і антыбальшавіцкай Беларускай Незалежніцкай Партыі. Як чалавек з жыцьцёвым і вайсковым досьведам, Янка Барысік хутка прайшоў падрыхтоўчы курс і ўжо ў сярэдзіне лістапада 1944 году дэсантаваўся на Беларусі, на тэрыторыі былой Баранавіцкай вобласьці. Ягоная група з пяці чалавек прабіралася на родную Слонімшчыну, каб арганізаваць там антыбальшавіцкі партызанскі аддзел. Праз некалькі дзён беларускія дэсантнікі патрапілі ў засаду й прынялі бой. Абкружаныя "сьмершаўцамі", яны загінулі геройскай сьмерцю, але не здаліся ворагу. Падафіцэру Янку Барысіку быў 31 год. Ён так і не даведаўся, што 27 лістапада 1944 году генэрал Кастусь Езавітаў выдаў загад аб наданьні яму рангі лейтэнанта. Атрымалася, што пасьмяротна...

"СЬМЕРШ" ня толькі зьнішчыў беларускага вайскоўца, але й спрабаваў ад яго імя арганізаваць радыёгульню зь немцамі. Радыёграмы падпісваліся псэўдай "Барыс". Аднак гэтая апэрацыя, фактычна, праваліласа. Дагэтуль невядома, дзе былі пахаваныя Барысік і ягоныя сябры.

Былы працаўнік Беларускае Самапомачы ў Слоніме Барыс Данілюк успамінае, што Янка Барысік быў вялікім ахвотнікам збройнага змаганьня за Бацькаўшчыну, які не пашкадаваў свайго жыцьця, каб жыла Беларусь.

**Сяргей Ёрш, Менск**

***************************************************

***Падтрымоўвайце "Беларускі Дайджэст" ды заахвочвайце іншых!***

# Слова пра Коласа

Калі мяне пытаюць, ці не сваяк я знакамітаму Песняру, бо маю прозвішча Колас, я заўсёды адказваю -- не. Але ганаруся, што наша беларуская зямля нарадзіла такога волата, сапраўднага Генія паэтычнага слова. Я ганаруся, што ліцэю, які я заснаваў, нашы ўлады ў рэшце рэшт вырашылі надаць імя вялікага паэта. Больш таго, і раней мой лёс далучаўся да спадчыны нашага Песняра, што часам прымушае думаць пра нейкую нават прадвызначанасць. Таму, калі не так даўно да мяне звярнуўся рэжысёр масавых відовішчаў Мікола` Макарцоў з прапановай прыняць удзел у юбілейным шанаванні, якое ён ладзіў у верасні гэтага года падчас гарадскога свята ля помніка Якубу Коласу, я пагадзіўся не толькі з-за таго, што мушу гэта рабіць "па пасадзе" дырэктара ўстановы, якая носіць такое імя, а яшчэ і таму, што зьявілася нагода сфармуляваць даўно наспелыя думкі...

Мушу прызнаць, што адпаведнае ўяўленне пра Якуба Коласа пэўны час было і ў мяне: вызубраны ў школе ўрывак з "Новай зямлі", вобраз "рэвалюцыянера" Лабановіча з "На ростанях", дзед Талаш, траскучыя вершыкі пра любоў да кампартыі, якія неяк адразу нішчылі жаданне чытаць класіка далей, "для душы". І гэты самы помнік, як плата ўлад за службу -- хадульныя, няшчырыя вершы, якія гэтую ўладу ўсхвалялі.

Падаецца, і дагэтуль гэткае звыклае стаўленне да Якуба Коласа захінае ад нас тое унікальнае і каштоўнае, што ёсць у ягонай творчасці і што так неабходна нам сёння... Больш за дваццаць гадоў таму я шукаў матэрыял для дыпломнага фільма на Вышэйшых рэжысёрскіх курсах у Маскве. Хацеў зрабіць фільм толькі паводле нейкага беларускага твора і таму вырашыў прачытаць усіх беларускіх аўтараў -- ад "А" да "Я". Паколькі экранны час дыплома абмежаваны в0 хвілінамі, кола пошуку ахоплівала толькі малыя формы: аповесці і апавяданні. І вось, калі гэтая нялёгкая справа ў рэшце рэшт была завершана, я задаў сабе пытанне: што ж засталося, што запала не толькі ў памяць, але і ў сэрца. А гэта быў твор Якуба Коласа -- апавяданне "Малады дубок", у якім гісторыя чалавека, які незаконна ссек дрэва і неабдумана чыніць зло свайму блізкаму, набывае раптам такі глабальны філасофскі сэнс і такую актуальнасць, што дапамагае ясна бачыць і разумець не толькі нашу, беларускую сітуацыю, але і праблемы, перад якімі стаіць сёння ўсё чалавецтва. Тады я пачаў больш грунтоўна знаёміцца з творчасцю Якуба Коласа, перачытваць тое, што "праходзіў" у школе, а таксама тое, што там не праходзілі. І для мяне адкрыўся цэлы Сусвет.

Першае, што ўражвае ў гэтай магутнай, знакавай для ўсіх нас постаці, -- безумоўна, тое, што менавіта вуснамі Якуба Коласа -- юнака з нёманскіх берагоў, беларуская мова, нягледзячы на паслядоўныя і мэтанакіраваныя спробы яе знішчэння, якія свядома ажыццяўляліся расійскім чыноўніцтвам на акупаваных беларускіх землях на працягу амаль двух стагоддзяў, раптам выявіла сябе так магутна, так чыста, таленавіта і яскрава. І паказала нам, беларусам, і ўсяму свету, што калі ёсць такая мова, то жывы наш народ, а значыць, будзе жыць беларуская дзяржаўнасць, будзе жыць Беларусь!

Але мова -- гэта далёка не толькі сукупнасць графічных знакаў і іхняя гукавая абалонка, гэта не толькі фанетыка, арфаграфія і сінтаксіс. Мова нясе ў сабе галоўны сэнс, у якім закадзіравана душа народа.

Мы часта паўтараем гэтую ісціну, але ці часта задумваліся над ёй па-сапраўднаму? Ці цэнім па-сапраўднаму тое, што дадзена нам Богам і што складае гэтую самую сутнасць нашай душы. Тое, што сфарміравала нацыянальны характар беларусаў?

Усё пазнаецца лепш у параўнанні. Мне давялося шмат павандраваць, і галоўная выснова, якая найбольш уражвае, -- колькі на свеце пустой, непрыгоднай для жыцця чалавека зямлі. Напрыклад, калі ляціш самалётам у заходнім накірунку, такая зямля, спрадвечна пакрытая снегам і льдом, пачынаецца адразу пасля Піцера, і бясконца цягнецца пад крылом самалёта на працягу прыкладна сямі гадзін: Зямля Франца Іосіфа, Грэнландыя, Аляска, Зямля каралевы Вікторыі. Невыразная прыгажосць, безліч рэк і азёр, безліч скал і ніводнай чалавечай істоты на працягу тысяч кіламетраў. Далей ляжыць Канада, дзе людзі здольны жыць толькі на адносна вузкай палосцы зямлі ўздоўж паўднёвай мяжы са Злучанымі Штатамі, бо далей на поўнач цягнуцца лясы, дзе сосны і яліны растуць не з зямлі, а з гранітных пліт, што праступаюць праз ігліцу, а паветра звініць ад безлічы камароў, ад якіх немагчыма ўратавацца.

Давялося мне павандраваць і па Злучаных Штатах, праляцець над імі з Ціхаакіянскага ўзбярэжжа да Атлантычнага. І падзівіцца гэтым бясконцым абшарам пляскатай, спаленай сонцам пустой зямлі, над якой рэгулярна ўтвараюцца шалёныя разбуральныя смерчы. Давялося бачыць пустыні Афрыкі, дзе сонца, што вісіць адвесна над галавой, ператвараецца ў бязлітасную знішчальную зброю, і джунглі, небяспечныя з-за драпежнікаў і малярыйных камароў. Давялося бачыць уральскую і сібірскую тайгу, і пакрытую вулканамі Камчатку, і скаваныя вечнай мерзлатой Чукотку і Анадыр. І шмат чаго іншага, што дае ўсе падставы сцвярджаць, што найлепшыя ўмовы для жыцця чалавека падараваныя Богам менавіта Еўропе, у самым сэрцы якой знаходзіцца Беларусь.

Сапраўды, Бог даў нам усё тое, пра што шмат якіх народаў можа толькі марыць: лагоднае надвор'е, цёплыя і празрыстыя рэкі і азёры, незвычайнай прыгажосці лясы, лугі і палі. І мову, якая ўвасобіла ў сябе гэтую прыгажосць.

І што мы з усім гэтым зрабілі і працягваем рабіць?

Для мяне самае каштоўнае ў творчасці Якуба Коласа -- яго філасофія, стаўленне да таго, што сёння прынята называць невыразнымі і бяздушнымі тэрмінамі: экалогія, навакольнае асяроддзе... І, магчыма, тыя беды, якія пераважае сёння ўсё чалавецтва і якія так балюча закранулі і нашую краіну, і ёсць пакаранне за людскія эгаізм, абмежаванасць, ганарлівасць, за спробу адасобіцца ад таго вялікага і магутнага Сусвету, часткай якога мы, па сутнасці, застаёмся.

Творчасць Якуба Коласа нясе нам спрадвечную мудрасць гармоніі з прыродай, у якой існавалі нашы продкі на працягу папярэдніх тысячагоддзяў. Мудрасць, дзякуючы якой яны надавалі боскае значэнне Сонцу, Агню і Вадзе. І раслінам, і птушкам, і звярам. Усяму, ад чаго залежала іхняе жыццё, і неадрыўнай часткай чаго гэтае жыццё з'яўлялася і зьяўляецца.

Адчуванне еднасці з Прыродай, яе прыгажосці, законаў, па якім жыве ўсё, што ёю створана, праціnae ўсю літаратурную спадчыну Песняра: спачатку гэта наіўнае і шчырае замілаванне дзіцяці ў "Новай зямлі", пасля -- творчае натхненне юнака ў "Сымоне-музыку", потым -- імкненне рацыянальнага асэнсавання ходу падзей сапраўднага інтэлігента Лабановіча ў "На ростанях".

Прыналежнасць да народнай мудрасці, арганічнае адчуванне яе далі магчымасць Якубу Коласу яшчэ напачатку мінулага стагоддзя адчуць сутнасць галоўнай праблемы, да якой падышло ўсё чалавецтва ў выніку навукова-тэхнічнага прагрэсу і ад якой сёння залежыць ягонае існаванне.

Сапраўды, менавіта існаванне ў суладдзі з прыродай дапамагло людзям жыць і выжываць на працягу безлічы папярэдніх тысячагоддзяў. А дыстанцыяванне ад наваколля, прагматычнае стаўленне да яго, хцівае імкненне "адабраць" у прыроды яе багацці, а потым -- не вельмі ўдалыя спробы гэтую амаль знішчаную прыроду "бараніць", якое ўласцівае адносна нязначнаму ў плане гісторыі перыяду навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, і паставіла чалавецтва як біялагічны від на мяжу знішчэння.

Менавіта гэта адчуваў Якуб Колас, надаючы ў сваіх творах выключнае значэнне праблемам сумлення і маральнасці. Я, безумоўна, маю на ўвазе перыяд ягонай сапраўднай творчасці, які доўжыўся да таго моманту, калі ён, як і ўвесь беларускі народ, стаўся ахвярай злачыннага камуністычнага рэжыму і быў вымушаны ў бяссіллі назіраць, як зганялі са сваёй, палітай уласным потам зямлі, высылалі на Урал і ў Сібір першых прадстаўнікоў беларускага сялянства, як вынішчалі беларускую інтэлігенцыю, як глумілася над праўдай бессаромнае і бязроднае "ніхто", якое ў выніку таго, ад чаго і засцерагаў паэт, раптам зрабілася "ўсім".

І дагэтуль мы не здолелі пазбавіцца цяжкай спадчыны тых трагічных гадоў. Адсутнасць сапраўдных маральных канонаў у кожным з нас і ў грамадстве ў цэлым, пакорлівае падпарадкаванне хлусні і несправядлівасці ўжо прывяло беларусаў да шматлікіх страт і ахвяр, і тоіць пастаянную небяспеку для ўсіх нас, як і для ўсяго чалавецтва ў будучыні. Ніякія тэхналагічныя нормы і інструкцыі не абароняць нас ад бяздумнага злачынцы, які па сваёй неахайнасці, некампетэнтнасці ці злой волі аднойчы можа зноў справакаваць аварыю ядзернага рэактара, распачаўшы новы Чарнобыль, ці адкрыць вентыль і выпусціць у раку тоны атруты, ці націснуць на ядзерную кнопку і прывесці да апакаліпсіса ўсё чалавецтва.

Толькі адчуванне сапраўднай еднасці кожнага з усім, што складае наш Сусвет, толькі адчуванне асабістай адказнасці за ўсё, што ў ім адбываецца, дае чалавецтву надзею спадзявацца на станоўчую перспектыву.

Менавіта гэта адчуваў і здолеў з такім магутным талентам выказаць у сваіх творах Якуб Колас і менавіта гэта робіць ягоныя творы класікай, якая будзе заўсёды актуальная не толькі для беларусаў, але і для ўсяго чалавецтва.

Уладзімір КОЛАС, дырэктар Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. (Н.Воля)

# Дзе ж у свеце...

Трымаю у руках кнігу ў глянцавай вокладцы, на ёй -- партрэт Коласа і назва: "Беларусь, ён дастойны змагар твой і сын". Кніга, што выйшла ў выдавецтве таварыства "Хата" і прымеркавана да Коласавай юбілейнай даты, -- можна сказаць, справа ўсяго жыцця нястомнага, карпатлівага даследчыка біяграфіі і творчасці Паэта -- музейнага супрацоўніка Міколы Жыгоцкага.

Дзяцінства над мілым і дарагім Нёманам, шлях у літаратуру, творчыя пошукі і народжаныя самім жыццём вялікія здзяйсненні, жывыя чалавечыя рысы аднаго з найвялікшых беларусаў, яго сям'я і сяброўства з Янкам Купалам, непарушная духоўная еднасць з Бацькаўшчынай... Гэтае і многае іншае паўстае ў кнізе -- пры навуковай дакладнасці і насычанасці фактамі -- у надзвычай простай, даступнай і цікавай форме. На добры лад гэтае выданне было б карысна, надзвычай карысна мець кожнай бібліятэцы, школе, навучальнай установе, нашым настаўнікам, вучням ды і не толькі ім. Каго не падкупіць шчырая і пяшчотная любоў даследчыка да вялікага сына зямлі беларускай, не абудзіць жадання разгарнуць услед за ёю і творы самога класіка? Чаму, па праўдзе кажучы, не заўжды спрыяюць сухаватыя школьныя падручнікі...

Але варта перагарнуць апошнюю старонку выдання, дзе пазначаны яго тыраж -- і ўвесь глянец неяк блякне. Божа літасцівы, наклад -- усяго 500 паасобнікаў! Каму ж ён трапіць у рукі -- хіба што асабліва ганаровым гасцям Коласавага музея, і то на пэўны час. Ну, а тыя самыя "народныя масы", пра духоўнае напаўненне якіх ва ўсе часы "без стомы клапоцяцца" вярхі?

Гэта ж трэба так уладзіць: нават у гонар юбілейнай даты не знайсці дзяржаўных сродкаў на прыстойны тыраж папулярнай кнігі пра юбіляра. Так і просіцца на памяць знакаміты паэтаў радок: "О, край родны! Дзе ж у свеце край такі яшчэ знайсці"? Не знойдзеш, і шукаць ня трэба. Ёсць гучная, шырокамаштабная дзяржаўная праграма святкаванняў, ёсць усялякія мерапрыемствы. Але калі нестае глыбокага разумення, што такое КОЛАС для беларускага народа, то і выходзіць у свет добрае выданне накладам на смех усяму свету... Аўтар кнігі, безумоўна, удзячны старшыні Мінскага аблвыканкама Мікалаю Дамашкевічу і іншым асобам, што спрычыніліся да фінансавання і выхаду хаця б гэтых 500 паасобнікаў. Але ці не сорамна дзяржаве, якая знаходзіць грошыкі часам на розную, прабачце, "мерыхлюндыю" далёка не першай агульнанароднай патрэбы (чаго варты хаця б "Мерцэдэсы" для звышзаслужаных нашых чыноўнікаў ці горналыжная траса ў раўніннай краіне), а на карысную, цікавую кнігу для народа іх няма? Вось сказана дык сказана: "Дзе ж у свеце край такі яшчэ знайсці"?

Сьвятлана КЛІМЕНЦЕНКА. (Н. В.)

## Васіль Быкаў будзе жыць у Чэхіі

*Такім чынам, Чэхія на працягу апошніх тыдняў выразна акрэсьліла сваё стаўленьне да Беларусі і паказала, каго тут не чакаюць, а каго – рады вітаць. Летась у верасьні прэзыдэнт Чэхіі прымаў Васіля Быкава ў Праскім градзе. Цяпер Вацлаў Гавал адзначае, што "даць Васілю Быкаву і ягонай жонцы магчымасьць жыць у Чэхіі – гэта ня толькі наш абавязак, гэта вялікі гонар для дзяржавы". Ад сёньня Васіль Быкаў будзе стала жыць у Чэскай Рэспубліцы. Пісьменьніку і ягонай жонцы прадастаўлены бестэрміновы від на жыхарства.*

Запыталася ў Васіля Уладзімеравіча, зь якімі пачуцьцямі ён прыехаў у Прагу.

"У Чэхію я прабіўся кружным шляхам, празь іншыя землі і народы. Таксама неблагія, зь вялікай культурай і найлепшымі памкненьнямі ў сучаснай палітыцы Эўропы. Але заўжды чэхі мне здаваліся найлепшымі з усіх эўрапейцаў. І ня толькі таму, што славяне, што культурна зьвязаныя зь беларускім народам і беларускай гісторыяй, але і таму, што чэхі як ніхто засьведчылі ў гісторыі сваю прыхільнасьць да дэмакратыі і што найлепшы эўрапейскі прэзыдэнт – гэта чэскі прэзыдэнт Вацлаў Гавэл. Я даўно марыў прыехаць у Чэхію, і цяпер мае мары зьдзейсьніліся. Ну а астатняе пакажа час", - адказаў пісьменьнік.

У ранейшых сваіх інтэрвію Быкаў казаў, што пакуль ня бачыць для сябе магчымасьці жыць у цяперашняй Беларусі. Сапраўды, цкаваньне Васіля Быкава некаторымі набліжанымі да кіраўніка Беларусі асобамі параўнальнае з тым, што было ў 1960-ыя гады і пра што Быкаў напісаў у сваіх успамінах, якія нядаўна ўпершыню прагучалі на хвалях Радыё Свабода. Дарэчы, выглядае, што неўзабаве ўспаміны выйдуць у Менску асобнай кнігай у прыватным выдавецтве.

"Кніга выдаецца ў Беларусі, у адным незалежным выдавецтве. Я думаю, што там яе рэдагаваньне і ўвесь працэс паліграфічны праходзіць даволі пасьпяхова, і я думаю, што недзе пры канцы года, можа быць, на пачатку наступнага, кніга зьявіцца ў кнігарнях". Васіль Быкаў ня любіць казаць пра тое, што звычайна завецца "творчымі плянамі", але ўсё ж крыху распавеў: "Магчыма, трошкі адпачну і адыду ад клопатаў, зьвязаных зь пераездам – і пачну працаваць, так я спадзяюся. Гэта будзе, можа быць, нешта зьвязанае з Чэхіяй, альбо нешта не да канца выпрацаванае, што зьвязана ў мяне зь Нямеччынай".

Дадамо, што статус Быкава і ягонай жонкі ў Чэхіі – гэта не палітычны прытулак. Яны застаюцца грамадзянамі Беларусі і плянуюць наведваць Радзіму.

## Дарагія Сябры і Прыхільнікі!

Ніжэй друкуем гадавы **СЬПІС** нашых сяброў, прыхільнікаў і людзей добрае волі, якія — адны больш, іншыя менш — выдатна і ахвярна дапамаглі нашай агульнай справе...

**Усім Вялікае Дзякуй!**

**Усе ахвяраваньні падаюцца ў пераліку на амэрыканскія даляры.**

У 2002-м годзе мы атрымалі наступныя ахвяраваньні на публікацыю нашае газэты:

**I.**

**Ахвяры $200.oo, ці больш даляраў...**

| | |
|---|---|
| 1. Ірэна і Жорж Сьмірноў | $1000.oo |
| 2. Натальля і Анатоль Лук'янчык | $600.oo |
| 3. Др. Мацьвей Б. Смаршчок | $530.oo |
| 4. Пятро Шыркоўскі (Англія) | $412.oo |
| 5. Тацьцяна і Др Міхась Жылік | $300.oo |
| 6. Міхась Лужынскі (Аўстралія) | $257.oo |
| 7. Міхась Каленік | $200.oo |
| 8. Царква Сьв. Юр'я ў Чыкага | $200.oo |
| 9. Др. Уладзімір Набагез | $200.oo |
| 10. Аўген Груша (Аўстралія) | $200.oo |
| 11. Катарына і Яраслаў Вініцкі | $200.oo |

**II.**

**Ахвяры $100.oo, ці больш даляраў...**

| | |
|---|---|
| 1. Сыльвэстар Будкевіч (*Англія*) | $180.oo |
| 2. Віталі Кажан | $155.oo |
| 3. Мікола Грэбень | $150.oo |
| 4. Мікола і Валя Сьнежка | $150.oo |
| 5. Славік Шабовіч | $150.oo |
| 6. Др. Язэп Сажыч | $150.oo |
| 7. Уладзімір Ракуць | $150.oo |
| 8. Лёнгіна і Ўладзімір Брылеўскі | $150.oo |
| 9. Маргарэт і Якуб Сапежынскі | $150.oo |
| 10. Пятро Касаты | $140.oo |
| 11. Люда і Др. Барыс Рагуля (Ка-да) | $123.oo |
| 12. Юзэфа Найдзюк | $120.oo |
| 13. Юля Андрусышын | $110.oo |
| 14. Віктар Ліпскі (Аўстралія) | $103.oo |
| 15. Арсень Монід (Канада) | $100.oo |
| 16. Леанард Норык | $100.oo |
| 17. Ніна Кіт | $100.oo |
| 18. Кастусь Вайцяхоўскі | $100.oo |
| 19. Беларускі Грамадзкі Цэнтар у Саўт Рывэр | $100.oo |
| 20. Вера і Др. Вітаўт Рамук | $100.oo |
| 21. Адольф Субота | $100.oo |
| 22. Надзя Касмовіч (Нямеччына) | $100.oo |
| 23. Зоя Жэлезоўска (Бельгія) | $100.oo |
| 24. Др. Уладзімір Жарскі | $100.oo |
| 25. Ірэна Цупрык | $100.oo |
| 26. Эмілія і Лявон Салавей | $100.oo |
| 27. а. Алесь Яноўскі (Канада) | $100.oo |
| 28. М. В. | $100.oo |
| 29. Мікола Сагановіч | $100.oo |

**III.**

**Ахвяры $50.oo, ці больш даляраў...**

| | |
|---|---|
| 1. Кляра Кумэйша | $90.oo |
| 2. А. Сенько (Англія) | $88.oo |
| 3. Вольга Яськевіч | $80.oo |
| 4. Марыя і Барыс Данілюк | $80.oo |
| 5. Ірэна і а. Вячэслаў Ільчук | $75.oo |
| 6. Фёдар Паўлавец | $75.oo |
| 7. М. Баяроўскі (Англія) | $73.oo |
| 8. Марыя Гаврылюк (Канада) | $70.oo |
| 9. Кастусь Верабей | $65.oo |
| 10. Пятро Нягода | $60.oo |
| 11. Аўген Завістовіч | $60.oo |
| 12. Жанна Малашэвіч | $60.oo |
| 13. Анатоль Тальянскі | $60.oo |
| 14. М. Швэдзюк (Англія) | $52.oo |
| 15. Людміла Колін | $50.oo |
| 16. Мікола Касьцюк | $50.oo |
| 17. Тацьцяна Кананчук | $50.oo |
| 18. Юрка Касьцюкевіч | $50.oo |
| 19. Віталь Цярпіцкі | $50.oo |
| 20. Уладзімір Пелеса | $50.oo |
| 21. Уладзімір Русак | $50.oo |
| 22. Вольга Грыцук (Канада) | $50.oo |
| 23. Яніна Каханоўска | $50.oo |
| 24. Жорж Наумчык | $50.oo |
| 25. Івонка Сурвілла (Канада) | $50.oo |
| 26. У. В. | $50.oo |
| 27. Лявон Кавалёў | $50.oo |
| 28. Кастусь Маталыцкі | $50.oo |
| 29. Ванда Махнач | $50.oo |
| 30. К. Пануцэвіч | $50.oo |
| 31. Др. Марыя Дэмковіч | $50.oo |
| 32. Васіль Богдан | $50.oo |
| 33. Багдан Паўк | $50.oo |
| 34. Нікадэм Жызьнеўскі | $50.oo |
| 35. Вольга Канарчук | $50.oo |
| 36 Тамара і Міхась Белямук | $50.oo |
| 37. Др. Зіна Гімпалевіч (Канада) | $50.oo |
| 38. Аўген Кабяко | $50.oo |
| 39. Мікола Латушкін | $50.oo |
| 40. Барыс Русак | $50.oo |
| 41. Янка Азарко | $50.oo |
| 42. Др. Алекс Туркоўскі | $50.oo |
| 43. Галіна Мароз | $50.oo |
| 44. Лявон Мурог | $50.oo |
| 45. Ванкарэм Нікіфаровіч | $50.oo |
| 46. Элеонора Пітушка (Канада) | $50.oo |
| 47. Марыя Кулагін | $50.oo |
| 48. Алекс Захаркевіч | $50.oo |

**IУ.**

**Ахвяры $49.oo, ці менш даляраў...**

| | |
|---|---|
| 1. Сямён Дудар | $45.oo |
| 2. М. Залога (Англія) | $44.oo |
| 3. В. Еўдакімаў (Англія) | $44.oo |
| 4. Л. Міхалюк (Англія) | $44.oo |
| 5. Ф. Зынгель (Англія) | $44.oo |
| 6. М. Мароз (Англія) | $44.oo |
| 7. Міхась Бахар | $40.oo |
| 8. Міхась Шабека | $40.oo |
| 9. Антон Маркевіч (Канада) | $40.oo |
| 10. Паўло Алексы | $40.oo |
| 11. З. Семашко (Англія) | $37.oo |
| 12. М. Дзейко (Англія) | $37.oo |
| 13. Язэп Бабіцкі | $35.oo |
| 14. Я. Барысевіч (Аўстралія) | $34.oo |
| 15. Г. В. Стэйт Унівэрсіты | $30.oo |
| 16. Алексы Кузьміч | $30.oo |
| 17. Алесь Вакуліч | $30.oo |
| 18. Васіль Шчэцька | $30.oo |
| 19. а. Васіль Кендыш | $30.oo |
| 20. Ст. Тамара | $30.oo |
| 21. Уладзімір Бельмач (Канада) | $30.oo |
| 22. Янка Шымчык | $30.oo |
| 23. а. Максім Таўпека (Канада) | $30.oo |
| 24. Надзя Барт (Нямеччына) | $30.oo |
| 25. Алеся Сёмуха | $30.oo |
| 26. Люба Крчык | $30.oo |
| 27. Валтэр Літаровіч | $30.oo |
| 28. Марат Клякоцкі | $30.oo |
| 29. Стывэн Махакей | $30.oo |
| 30. Аляксандра Воран | $30.oo |
| 31. Мікола Александар | $30.oo |
| 32. Сьцяпан Наумчык | $30.oo |
| 33. Міхась Калядка | $30.oo |
| 34. Васіль Сергіевіч | $30.oo |
| 35. Ліда Катовіч | $30.oo |
| 36. З. Сідлярэвіч (Аўстралія) | $29.oo |
| 37. М. Раецкі (Аўстралія) | $29.oo |
| 38. Фэдэральная Рада БАА (Аўст-лія) | $29.oo |
| 39. Беларускі Цэнтр. Каміт.(Аўст-лія) | $29.oo |
| 40. Валентына Ваксэліс | $25.oo |
| 41. Гэлен Сысой | $25.oo |
| 42. Леў Стагановіч | $25.oo |
| 43. Вінцэнт Зарэцкі | $25.oo |
| 44. Васіль Васільеў | $25.oo |
| 45. Алін Аіе (Канада) | $23.oo |
| 46. Алесь Міцкевіч | $20.oo |
| 47. Янка Каваленка | $20.oo |
| 48. Вячка Станкевіч | $20.oo |
| 49. Эдвард Эпштэін | $20.oo |
| 50. П. Г. (Аўстралія) | $12.oo |
| 51. Я. А. (Аўстралія) | $12.oo |
| 52. А. Ш. (Аўстралія) | $12.oo |
| 53. а. А. Г. (Аўстралія) | $12.oo |
| 54. Т. Л. (Аўстралія) | $12.oo |
| 55. Г. Б. | $10.oo |
| 56. Г. Ш. (Аўстралія) | $6.oo |

**Вось так выглядае фінансавая справаздача "Беларускага Дайджэсту". У далейшым справу** фінансаў будзем старацца палепшыць...
Яшчэ раз шчыра дзякуем Усім нашым дабрачыньцам і прыхільнікам... God bless You!

З вялікаю пашанаю, М. Прускі, —выдавец.

## База дадзеных перыядычных выданняў беларускага замежжа

**Вялікабрытанія**

***Belarusian Chronicle (Беларуская хроніка)***
Аб выданні: Штоквартальны ілюстраваны часопіс на англійскай мове. Выдаецца Англа-беларускім таварыствам.
Рэдактар: сп. Гай Пікарда.
Адрас у Інтэрнеце:
www.skaryna.clara.net/abs/chronicl.htm

***Supporting to the children of Belarus (Падтрымка дзяцей Беларусі)***
Аб выданні: Газета дабрачыннай арганізацыі, якая займаецца аздараўленчымі адпачынкамі дзяцей з Беларусі, дастаўляе гуманітарную дапамогу ў пацярпелыя рэгіёны. Выдаецца на англійскай мове.
Адрас рэдакцыі: Kinder House, Fitzalan Street, Glossop, Derbyshire, SK13 7DL.

**Злучаныя штаты Амерыкі**

***Belarusian Review (Беларускі агляд)***
Аб выданні: Інфармацыйны штоквартальнік. Выдаецца на англійскай мове.
Адрасы: P.O. Box 1347, Highland Park, N.J. 08904. і Malesicka ul. 553/65, 108 00 Praha 10, Czech Republich.
Tel./Fax: (+1) 732 222 1951 (USA) і (+420) 274 771 338 (Czech).
Адрас у Інтэрнеце: www.belreview.cz
Электронная пошта: jirstan@login.cz

***Беларус***
Аб выданні: Штомесячная газета. Выдаецца на беларускай мове.
Адрас: P.O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735.
Адрас у Інтэрнеце: www.bielarus.org
Электронная пошта: hazetabielarus@att.net

***Беларускі Дайджэст***
Аб выданні: Штомесячная газета. Выдаецца на беларускай мове.
Адрас: 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616.
Tel.: (+616) 942 01 08, Fax: (+616) 942 63 64.
Электронная пошта: bdigest@iserv.net

***Запісы***
Аб выданні: Серыйнае выданне Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва.
Адрас: Belarusian Institute of Arts and Sciences, 166-34 Gothic Drive, Jamaica, NY 11432.
Адрас у Інтэрнеце:
www.belarus8.tripod.com/ZapisyBINIM/zapisy.htm
Электронная пошта: zmicier@hotmail.com

***Царкоўны пасланец***
Аб выданні: Бюлетэнь парафіяльнай рады катэдральнага сабору св. Кірылы Тураўскага (Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква). Выдаецца на беларускай мове, неперыядычна.
Адрас: P.O. Box 5982, Somerset, N.J. 08875-5982, U.S.A.

***Беларуская старонка ў газеце "Земляки"***
Аб выданні: Штомесячная газета. Выдаецца на рускай мове. Арганізатар беларускай старонкі Цімох Ліякумовіч.
Адрас: 2921 West Devon Ave., Chicago IL 60659 USA.
Tel.: (+773) 761 80 60, 267 13 87.

***Беларуская Думка***
Аб выданьні: Гадавік. Выдаецца на беларускай мове.
Адрас: PO Box #26, South River, NJ. 08882.

**Канада**

***Камунікат Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады***
Аб выданні: Выдаецца на беларускай мове, неперыядычна.
Адрас: 54 Mary St., Barrie, Ontario, L4N 1T1.

***Беларускае Слова***
Аб выданні: Газета Згуртаваньня Беларусаў Канады. Выдаецца на беларускай мове раз у квартал.
Галоўны рэдактар: Віялета Кавалёва, адказны сакратар Яўгенія Шаўчэнка
Адрас: Bielaruskaje slova, 524 St.Clarens Ave., Toronto, ON, M6H 3W7, Canada

**Латвія**

***Прамень***
Аб выданні: Штомесячная газета Таварыства беларускай мовы "Прамень". Выдаецца на беларускай мове.
Рэдактар: Леанід Шакавец.
Адрас: вул. Зэнтэнес, 9-28 Рыга, LV-1069.
Tel.: (+371) 7 41 60 28.

**Літва**

***Рунь***

Аб выданні: Штомесячная газета. Выдаецца на беларускай мове.
Адрас: Taikos, 50-29, 2017 Vilnius, Lithuania.
Tel.: (+370 2) 42 38 02.
Адрас у Інтэрнеце: www.runbel.lt
Электронная пошта: editor@runbel.lt

**Нямеччына**

***Belarus-News***

Аб выданні: Штоквартальнік. Выдаецца на нямецкай мове.
Адрас: IBB GmbH, Thomasstr. 1, 441135 Dortmund.
Tel.: (+49 231) 952 096 21,
Fax: (+49 231) 521 233.
Электронная пошта: ibb-dortmund@t-online.de

**Польшча**

***Annus Albaruthenicus (Год беларускі)***

Аб выданні: Часопіс. Публікацыі на беларускай і іншых мовах. Выдаецца штогод. Рэдактар Сакрат Яновіч.
Адрас: Stowarzyczenie Villa Socrates, 16-120 Krynki, Poland.

***Беларускія ведамасці***

Аб выданні: Штомесячнік. Выдаецца на беларускай мове. Рэдактар Зянон Пазняк. Прадстаўляе погляды Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі БНФ.
Адрас: 02017 Warszawa, Al. Jerozolimskie 125/127.
Tel./Fax: (+48 22) 628 76 73

***Czasopis (Часопіс)***

Аб выданні: Ілюстраваны штомесячны часопіс. Выдаецца на беларускай і польскай мовах.
Адрас: 15-001 Bialystok, skr.p. 262, Poland.
Адрас у Інтэрнеце: www.slonko.com.pl/czasopis
Электронная пошта: czasopis@free.ngo.pl

***Інфарматар***

Аб выданні: Бюлетэнь. Выдаецца на беларускай і польскай мовах Інстытутам беларускай культуры.
Адрас: 00-031, Warszawa, ul. Szpitalna 5/5, III pietro, Poland.
Электронная пошта: olga.maziarska@poczta.gazeta.pl

***Ніва***

Аб выданні: Штотыднёвік. Выдаецца на беларускай мове.
Адрас: 15-959 Bialystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149, Poland.
Адрас у Інтэрнеце: www.republika.pl/niva_bielastok
Электронная пошта: niva_bielastok@poczta.onet.pl і niva_bielastok@skrzynka.pl

***Тэрмапілы***

Аб выданні: Часопіс. Выдаецца на беларускай і польскай мовах. Рэдактар Ян Чыквін.
Адрас: 15-420 Bialystok, ul. Liniarskiego 4, Poland.

***Беларускі гістарычны зборнік***

Аб выданні: Навуковы часопіс. Выдаецца двойчы на год. Артыкулы публікуюцца на польскай і беларускай мовах.
Адрас: Bialoruskie Towarzystwo Historyczne, 15-959 Bialostok, ul. Zamenhofa 27, Poland.
Tel.: (+48 85) 743 50 22
Электронная пошта: bzh@wp.pl

**Францыя**

***Perspectives Bielorussiennes (Беларускія перспектывы)***

Аб выданні: Штоквартальны інфармацыйны бюлетэнь пра Беларусь. Выдаецца на французскай мове.
Адрас: Association Perspectives Bielorussiennes, 40 rue de Paris, 92110 Clichy
Tel./Fax: 01 47 39 61 35
Электронная пошта: goujona@club-internet.fr

**Расія**

***Штогадовік "Скарыніч"***

Аб выданні: Літаратурна-мастацкі гадавік. Укладальнік і рэдактар Аляксей Каўка.
Адрас: 103055 Расія, г.Масква, Вуглавы зав., 4-86

***Маланка***

Аб выданні: Штомесячная газета Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Я.Чэрскага. Выдаецца на беларускай і рускай мовах.
Адрас: 664078 Расія, Іркуцк м-н Зялёны, 15-38
Tel.: (+3952) 20 11 72
Электронная пошта: malanka2000@mail.ru

## Адміністрацыя прэзыдэнта ЗША

Джорджа Буша паведаміла аб намеры правесьці кансультацыі з урадамі эўрапейскіх дзяржаваў, каб "разгледзець пытаньне аб адмене абмежаваньняў на выдачу візаў для высокапастаўленых прадстаўнікоў ураду Беларусі, уведзеных у мінулым месяцы ЗША й дзяржавамі Эўразьвязу". Аб гэтым гаворыцца ў распаўсюджаным у Вашынгтоне паведамленьні Дзярждэпартамэнту ЗША, у якім падкрэсьлена, што адміністрацыя Буша "вітае рашэньне" уладаў Беларусі аднавіць працу прадстаўніцтва АБСЭ ў Менску.

## Святочная вечарына ў ГрДУ імя Я.Купалы

**120-гадовы юбілей народных паэтаў Беларусі Я.Купалы і Я.Коласа, які крочыў па краіне цэлы год, завяршыўся святочнай вечарынай у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Я.Купалы.**

Ва ўрачыстасцях бралі ўдзел і навукоўцы з Мінска: кандыдат філалагічных навук, аўтар манаграфіі «Янка Купала і рамантызм» І.Багдановіч і доктар філалагічных навук, прэзідэнт Купалаўскага міжнароднага фонду В.Рагойша.

В.Рагойша, як адзін з найбольш аўтарытэтных знаўцаў нашых класікаў, у сваім выступе падкрэсліў, што Я.Купала з'яўляецца знакавай фігурай для Беларусі і што «мы яшчэ не дачыталіся да ўсяго таго, да чаго варта дачытацца». Госці з Мінска ад сябе і ад літаратурнага музея Я.Купалы перадалі ў падарунак універсітэту свае кнігі і купалаўскія выданні, а таксама камплект плакатаў, прысвечаных юбілею.

Вечарыну прадоўжыла літаратурна-музычная кампазіцыя «Дзве зоркі адной велічыні на небасхіле беларускай паэзіі», падрыхтаваная студэнтамі універсітэта. Прагучалі вершы і ўрыўкі з твораў Я.Купалы і Я.Коласа і песні, напісаныя на іх вершы. У вечарыне прыняў удзел хор «Бацькаўшчына».

Але, бадай, самая галоўная навіна – падчас сустрэчы рэктара універсітэта С.Маскевіча і прэзідэнта купалаўскага міжнароднага фонду В.Рагойшы было вырашана, што ГрДУ імя Я.Купалы таксама павінен стаць сябрам гэтага міжнароднага фонду.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## Вырашылася спрэчка паміж Беларуссю і АБСЕ?..

БЕЛТА/. Спрэчка, якая тармазіла развіццё адносін Беларусі і АБСЕ, вырашана да задавальнення бакоў. Аб гэтым паведаміў 30 снежня на прэс-канферэнцыі кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Беларусі Міхаіл Хвастоў. Паводле яго слоў, на пасяджэнні Пастаяннага савета АБСЕ, якое прайшло 30 снежня ў Вене, вырашана закрыць Кансультатыўна-наглядальную групу гэтай арганізацыі ў Беларусі і адкрыць з 1 студзеня 2003 года Офіс АБСЕ у Мінску. Таксама адбылося падпісанне Мемарандума аб узаемаразуменні паміж урадам Рэспублікі Беларусь і Арганізацыяй па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе аб умовах знаходжання Офіса АБСЕ у Мінску.

Беларусь гатова адкрыта дзейнічаць і развіваць адносіны з АБСЕ, у той жа час мы спадзяёмся на такія ж пазітыўныя адносіны да нас з боку АБСЕ і кіраўніцтва гэтай арганізацыі, заявіў Міхаіл Хвастоў. Кіраўнік МЗС лічыць таксама, што Еўрапейскі саюз, настойваючы на безумоўнай прысутнасці АБСЕ у Мінску, "бярэ на сябе пэўныя абавязацельствы развіваць палітычныя і эканамічныя адносіны з Беларуссю". Мы выканалі сваю частку работы, таму краіны ЕС, якія ўвялі візавыя абмежаванні ў адносінах да Беларусі, павінны іх адмяніць неадкладна, лічыць міністр.

Міхаіл Хвастоў выказаў упэўненасць у тым, што на наступным пасяджэнні Парламенцкай асамблеі АБСЕ, якое пройдзе ў лютым 2003 года, будуць поўнасцю аднаўлены правы Нацыянальнага сходу Беларусі ў ПА АБСЕ. "Гэта пытанне практычна вырашана", - заявіў міністр замежных спраў Беларусі.

Паведамляецца, што М. Хвастоў – афіцэр спэцслужбаў Расеі і...

************************************************

### У надыходзячым годзе беларуска-расійская інтэграцыя застанецца адным з важнейшых напрамкаў дзейнасці МЗС Беларусі

БЕЛТА/. У надыходзячым годзе, зрэшты як і ў адыходзячым, беларуска-расійская інтэграцыя будзе адным з важнейшых напрамкаў дзейнасці Міністэрства замежных спраў нашай краіны. Аб гэтым паведаміў 30 снежня на прэс-канферэнцыі кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Беларусі Міхаіл Хвастоў.

Паводле яго слоў, падводзячы вынікі 2002 года, можна з упэўненасцю канстатаваць пэўныя вынікі ў саюзным будаўніцтве. Год заканчваецца з дакладным разуменнем, што ў стварэнні Саюзнай дзяржавы зацікаўлены і беларусы, і расіяне, падкрэсліў міністр. Ён дадаў таксама, што дамоўленасці, дасягнутыя на ўзроўні прэзідэнтаў дзвюх краін, даюць магчымасць "дастаткова ўпэўнена глядзець на плённую работу па стварэнню Саюзнай дзяржавы ў наступным годзе".

Міхаіл Хвастоў адзначыў, што супрацоўніцтва знешнепалітычных ведамстваў Беларусі і Расіі таксама развівалася паспяхова. "Мы перайшлі ад каардынацыі пазіцый па пытаннях знешняй палітыкі да ўзгодненай знешняй палітыкі, у тым ліку ў рамках саюзных інтарэсаў", - заявіў кіраўнік МЗС нашай краіны...

## Кастуся МАЙСЕНЮ ўзнагародзілі...

Як паведамляе Віктар Бура ў Беластоцкай "Ніве", у лістападзе наведалі Гайнаўку беларускія дыпляматы з мэтай ушанаваць шматгадовую працу Кастуся Майсені — заснавальніка і старшыні Грамадзкага камітэту пабудовы Беларускага Музэю. Дыпляматы прывезьлі з сабою Ганаровую Грамату Міністэрства культуры Беларусі, якой узнагародзілі Кастуся Майсеню за шматгадовую плённую дзейнасьць па захаваньні беларускай культуры...

Кастусь Майсеня ў сваім жыцьці кіраваўся толькі ўнутранай патрэбай рабіць дабро беларускай справе. Апошнім часам прыхварэў. Зрэдку ўжо наведвае Беларускі Музэй. У летку больш часу праводзіць на свёй дачы сярод духмяных кветак і пад пільнай апекай жонкі Анастасіі, таксама пэнсіянеркі, раней настаўніцы беларускай мовы....

Карыстаючыся нагодай Кастусь Майсеня з жонкай Анастасіяй перадаюць шчырую падзяку рэдактару "Беларускага Дайджэста" Міколу Прускаму са Злучаных Штатаў Амэрыкі. Гэта дзякуючы яго руплівасьці на працягу дваццаці гадоў **Грамадзкі камітэт атрымаў 40 тысяч даляраў на пабудову Беларускага музэю ў Гайнаўцы.** Вялікую дапамогу музэю аказала таксама Беларусь. Спадар Майсеня мае там шмат сяброў, якім таксама шчыра дзякуе.

Кастусь Майсеня з вялікай трывогай гаворыць аб будучыні Беларускага Музэю. Непакоіць яго тое, што да сёньняшняга дня не назначаны дырэктар музэю, што няма распрацаванай праграмы дзейнасьці асяродка беларускай культуры, што невядома калі музэй пачне выконваць сваю місію.

**Сорамна нам усім** перад братамі беларусамі за мяжой!

## А за што ж папракаць?

Тое, што нярэдка нашы маладыя людзі – спецыялісты, высокакваліфікаваныя працаўнікі -- з'язджаюць з Беларусі за мяжу ці мараць аб гэтым, ні для кога не сакрэт. Заўважылі, нарэшце, гэта і нашы кіраўнікі. У прэсе, па радыё і тэлебачанні б'юць у званы: маўляў, дзе сорам, дзе патрыятызм у такіх беларусаў?

Мне таксама балюча, што лепшыя, перспектыўныя кадры, якія маглі б столькі зрабіць для Бацькаўшчыны, мусяць развітвацца з ёю. Але ці маем мы права папракаць іх? Ці не лепш задумацца, чаму так адбываецца? Хіба не таму, што сёння тут, на Радзіме, яны не адчуваюць сябе патрэбнымі, ім няма дзе прыкласці свае рукі, веды, разгарнуць таленты. Няма як зарабіць на людскае жыццё.

Якія ж урокі патрыятызму даюць нашай моладзі дзяржаўныя мужы? Мо прыклад адданасці Бацькаўшчыне, калі гандлююць самым святым -- яе незалежнасцю, ці размаўляюць выключна па-руску, зневажаючы і выцясняючы з ужытку мову карэннай нацыі?

Не магу я гэтага зразумець, ды і нашы дзеці і ўнукі не зразумеюць. А вось калі Беларусь выйдзе, нарэшце, на цывілізаваны шлях, пачне будаваць свой Дом, упэўнены, за працу з душою возьмуцца і тыя, хто зараз не бачыць свайго месца на зямлі бацькой.

Ф. ЛУЧАНОК.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## «Народная культура Беларусі» — кніга, патрэбная ўсім

Выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» выпусціла энцыклапедычны даведнік «Народная культура Беларусі».

Паводле слоў загадчыка рэдакцыі філасофіі, эканомікі і права выдавецтва Станіслава Дубянецкага, новы даведнік — унікальная для беларускага кнігвыдання з'ява: у ім паказана выключная роля народнай культуры ў фарміраванні і самазахаванні беларусаў як этнасу на працягу многіх стагоддзяў.

У «Народнай культуры Беларусі» змешчана каля 700 артыкулаў, прысвечаных розным тэмам народнай культуры. Тут, у прыватнасці, расказваецца пра беларускія традыцыі ў рамёствах, промыслах, адзенні, жыллі, дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, святах і абрадах, пра міфалагічныя персанажы і г.д. У асобных рубрыках можна прачытаць пра археалогію, краязнаўства, народную музыку і тэатр, тапаніміку, этнагенез. Змешчаны таксама артыкулы, прысвечаныя асобным гістарычным рэгіёнам, этнасацыяльным групам і нацыянальным меншасцям.

Багата ілюстраванае выданне, неабходнае ўсім, хто цікавіцца беларускімі народнымі традыцыямі і культурай...

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^





Сьветлай памяці



## Нікодым Жызьнеўскі

28 верасьня 1926 – 7 сьнежня 2002

Пасьля цяжкой хваробы пайшоў з жыцьця Нікодым Жызьнеўскі, адзін з выдатнейшых дзеячоў беларускага нацыянальнага руху ў Злучаных Штатах Амэрыкі. Нарадзіўся ён ў сям'і вясковага краўца ў Сабары Дзісьненскага павету на Віцебшчыне. У 1944 годзе, ратуючыся ад камуністычнай навалы, Нікодыму разам з бацькамі і сястрой Верай удалося пераехаць у Нямеччыну. Там яны жылі ў лагерох ДП і працавалі. Нікодым вучыўся ў беларускай гімназыі, прымаў актыўны ўдзел у скаўцкім руху. У кастрычніку 1949 году выпала магчымасьць паехаць у эміграцыю ў Амэрыку.

Тут яго сямейства месьціцца ў Пеоры, штат Ілінойс. Нікодым Жызьнеўскі працягвае навучэньне; з 1952 па 1954 годы служыць у Арміі Злучаных Штатаў падчас Карэйскай вайны. У 1958 годзе ён заканчвае ў Пеоры Брэдлі Унівэрсітэт з дыплёмам інжынера-механіка. Па атрыманай спецыяльнасьці Нікодым Жызьнеўскі пасьпяхова да выхаду на пэнсію працаваў у электронных AB Dick Company і Video Jet Company. Яго сваякі і знаёмыя неаднаразова адзначалі выключнае ўмельства Нікодыма і ў звычайным побыце ўсё рабіць і рамантаваць сваімі рукамі і сваім розумам, незалежна ад складанасьці і адмысловасьці патрэбнай працы.

Ажаніўшыся з Ганнай Грынько, беларускай эмігранткай, што жыла ў Канадзе, Нікодым Жызьнеўскі ў 1959 годзе пераязджае ў Чыкага. Тут ён прымае самы актыўны ўдзел у беларускім нацыянальным этнічным руху і ў дзейнасьці беларускіх эміграцкіх арганізацыяў. Арганізуе і ўзначальвае Беларуска-амэрыканскую моладзевую суполку, актыўна ўдзельнічае ва ўсіх мерапрыемствах Беларускага каардынацыйнага камітэту ў Чыкага і Чыкагскага камітэту паняволеных народаў. На працягу многіх гадоў ён дапамагаў праводзіць агульначыкагскае сьвята "Раство ідзе па зямлі" з беларускай ялінкай і спецыяльным днём Беларусі, а таксама штогадовы Фэст этнічных майстроў мастацтва і рамёстваў штату Ілінойс. Шмат разоў пасьпяхова прадстаўляў чыкагскія беларускія суполкі на традыцыйных сустрэчах беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

Амаль сорак гадоў – з 1960 да 1998-га – Нікодым Жызьнеўскі кіраваў Беларускім радыё ў Чыкага і наваколлі і непасрэдна вёў у эфіры вельмі цікавыя радыёперадачы. У гэты час пасьпяхова раскрыўся яшчэ адзін яго талент – талент радыёжурналіста. Нікодым Жызьнеўскі ставіўся да людзей вельмі чула і ўважліва, ён самаахдана дапамагаў у самых розных жыцьцёвых справах вельмі многім: ад старэйшых беларускіх сямействаў Бяленісаў і Пануцэвічаў да самых маладых беларусаў, што прыязджалі з апошнімі хвалямі эміграцыі. Ён быў адным з самых актыўных прыхаджанаў уніяцкай царквы Хрыстазбаўцы, непасрэдна арганізуючы і беручы ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах Рэлігійна-культуровага цэнтру пры гэтай царкве. За сваю грамадзкую дзейнасьць, за чуласьць і самаадданую шчырую дапамогу простым людзям Нікодым Жызьнеўскі быў узнагароджаны на пачатку гэтага году амэрыканскай тэлекампаніяй NBC-5 ганаровай Jefferson Awards.

Нікодым Жызьнеўскі быў пахаваны ў Чыкага на могілках Irving Park з ганаровым вайсковым цырыманіялам. Да дамавіны быў ускладзены дзяржаўны сьцяг ЗША, які потым быў перададзены сям'і нябожчыка.

У вялікім суме Нікодым пакінуў жонку Ганну, дзвюх дачок і двух сыноў, семярых унукаў і унучак, адну праўнучку, сястру Веру Рамук і яе сямейства. А таксама ўсіх, хто ведаў гэтага найцудоўнейшага чалавека. Ён памёр як сапраўдны патрыёт Бацькаўшчыны з болем у сэрцы і з думкай пра свой народ, з надзеяй на яго лепшае і шчасьлівейшае жыцьцё.

Вечная яму памяць! В.Н.

**"У сувязі з напаткаўшым мяне горам — сьмерцю матулі, выказваю сардэчную падзяку сваім сябрам: Аліне і Міколу Сагановіч, Алі Кузьміцкай і Васілю Шчэцьку за іх чуласьць і дапамогу.**

**Мая шчырая падзяка ўсім дабразычлівым людзям, асабліва: Зянону Пазьняку, Антону Шукелойць, Юлі і Паўлу Андрушышын, Алі Рамано, Лідзе Кано, Анатолю Калбун і Валодзі Цяліця за іх падтрымку і цёплыя словы спачуваньня".** ***Анатоль Тальянскі.***

*************************************************

Мікола Грэбень — у памяць Уладзіміра Брылеўскага - $50.оо

## *Нам Пішуць...*

### *АЎСТРАЛІЯ*

У нядзелю 1-га сьнежня 2002 г. Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі, Аўстралія, супольна з парафіяй БАПЦарквы — Сьвятых Віленскіх Мучаньнікаў адзначылі 82-я ўгодкі "Слуцкага Чыну".

Як і ўсе папярэднія гады, па заканчэньні сьв. літургіі а. А. Кулакоўскі адслужыў паніхіду па загінуўшых змагарах Случчыны, што ў ня роўнай барацьбе аддалі сваё жыцьцё, каб жыла Беларусь. У час малебну сябры Беларускага Вызвольнага Фронту стаялі з пахіленымі сьцягамі.

Пасля службы ўсёй грамадой перайшлі ў прыцаркоўную залю, каб адзначыць гэты дзень афіцыйнай часткай. Айцец А. Грыцук прывітаў усіх прысутных і запрапанаваў хвілінай цішыні ўшанаваць памяць нашых герояў і за тым прасьпяваць жалобны марш "Сьпі пад курганам герояў". Спадар А. Шнэк прачытаў рэфэрат на тэму дня, пасьля чаго сп. Я. Барысевіч прачытаў вытрымку з гісторыі Беларусі, пэрыяду Рэчы Паспалітай. Затым спадвр Яўген Груша прадэклямаваў верш напісаны ў 1944 г. спадарыняй Надзяй Дземідовіч, а сп. С. Жук прачытаў верш "Запавет" напісаны ім на тэму дня.

На заканчэньне афіцыйнай часткі ўсе прысутныя прасьпявалі гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". І як заўсёды ў сяброўскай бяседзе адбыўся агульны пачастунак. А. Шнэк



* * *

У нядзелю 24 лістапада 2002 г. парафія БАПЦарквы — сьвятых Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурн, Аўстралія адзначала 21-я ўгодкі пасьвячэньня царквы. Пасьля літургіі а. Аляксандар і а. Юрый адслужылі традыцыйны малебен удзячнасьці парафіі.

Затым у прыцаркоўнай залі адбыўся супольны пачастунак. Жаночы хор "Каліна" прасьпяваў некалькі беларускіх песьняў. У шумна-вясёлай бяседзе прамінула некалькі гадзін успамінаў і жартаў... А.Ш.

Шаноўны рэдактар, шаноўныя Суродзічы

Прыміце нашы найшчырэйшыя віншаваньні з Калядамі і Новым 2003годам, у якім і далей усе разам і кожны паасобку будзем прыкладаць усе намаганьні ў адстойваньні інтарэсаў і незалежнасьці Бацькаўшчыны. Добрага ўсім здароўя, шчасьця і дабрабыту.

Жыве наша Радзіма-Беларусь, незалежная і заможная

З павагай ад імя Грамады беларускай культуры імя Фр.Скарыны (м. Масква) Таіса Мішчанка.

* * *

### У Таронта, Канада

адзначылі 82-ю гадавіну Слуцкага Паўстаньня.

24-га лістапада ў царкве Сьв. Эўфрасіньні Полацкай была адслужана Літургія ў часе якой а. Аляксандар у казаньні падкрэсьліў ахвярнасьць паўстанцаў за ідэю незалежасьці Беларусі.

Пасьля літургіі была адслужана паніхіда, а на заканчэньне царкоўны хор і вернікі прасьпявалі "Вечная памяць". Пасьля Багаслужбы прысутныя перайшлі ў царкоўную залю. Старшыня царкоўнага камітэту сп. Рымша прывітаў прысутных і папрасіў прасьпяваць гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Ён-жа прачытаў невялікі рэфэрат на тэму дня.

Хор пад акампанемэнт матушкі выканаў хаўтурны гімн "Сьпі пад курганам герояў" і "Не пагаснуць зоркі ў небе". Пасьля акадэміі сястрыцтва прыгатавала абед. Эл. Пітушка

## «Мы тутэйшыя — беларускія пецярбуржцы!»

Тацццяна **ПАДАЛЯК (Звязда)**

Красамоўная дэталь: каб не спазніцца на цырымонію адкрыцця Дзён культуры Беларусі ў Санкт-Пецярбургу, Міністр культуры Расійскай Федэрацыі Міхаіл Швыдкой дабіраўся да тэатра «Балтыйскі дом» на метро (з-за снегападу на дарогах горада ўтварыліся велізарныя пробкі). «Мы сумуем без беларускага мастацтва», — сказаў Міхаіл Яфімавіч. Паглядзеўшы спектакль «Чорная панна Нясвіжа» Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы... Воклічы «Брава!» гучалі і пасля спектаклю купалаўцаў «Ідылія» і «Ромул Вялікі»...

***

Плённай была сустрэча беларускай дэлегацыі з прэзідэнтам Пятроўскай Акадэміі навук і мастацтваў, членам Прэзідыума беларуска-расійскага брацтва Леанідам Майбарадай і іншымі прадстаўнікамі беларускай дыяспары. У дар нашым суайчыннікам перададзена бібліятэка беларускай літаратуры, а таксама аўдыё- і відэазапісы мастацкіх калектываў Беларусі.

Але ці не найвялікшай нечаканасцю было акунуцца ў беларускую мову ў... канцэртнай зале імя А. Глазунова Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі, дзе з канцэртам камернай музыкі выступаў ансамбль салістаў «Класік-Авангард» Белдзяржфілармоніі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава. У антракце захопленыя водгукі аб канцэрце гучалі на добрай беларускай мове...

— Мы тутэйшыя — беларускія пецярбуржцы! — літаральна ў адзін голас гавораць спявак Лявон Габрысёнак, кандыдат мастацтвазнаўства, музыказнавец Пецярбургскага інстытута гісторыі мастацтва, аўтар кніг пра беларускую народную музыку Галіна Таўлай, кампазітар, прафесар кансерваторыі Ігар Мацієўскі, музыязнавец Маргарыта Пярова.

Суразмоўцы расказалі, што на канцэрце шмат беларусаў. Вельмі спадабаліся творы з «Віленскага сшытка», «Дывертысмент» М. Радзівіла, «Паланез» К. Ельскага, іншыя. Прызналіся, што праграма стала нечаканасцю — «мы адкрылі шмат новага, чаго не ведалі і не чулі ніколі».

— Браты Луцэвічы — мае дзяды, мне прыемна, што пецярбуржцы вельмі цікавяцца беларускай культурай.— гаворыць Маргарыта Пярова.

***

З поспехам прайшла выстаўка з калекцыі Музея сучаснага выяўленчага мастацтва Беларусі, дзе экспанавалася 50 жывапісных і 28 графічных работ.

«У Санкт-Пецярбургу, на жаль, няма музея сучаснага выяўленчага мастацтва, гэта задача толькі ставіцца, — адзначыў старшыня Саюза мастакоў Санкт-Пецярбурга Альберт Чаркін. — Мы добра ведаем сур'ёзную школу рэалістычнага мастацтва Беларусі. Прадстаўленыя работы сучаснага мастацтва сведчаць, што мы маем справу з майстрамі высокага класа».

***

Аналізуючы ход Дзён культуры, якія, несумненна, удаліся, усё ж нельга не спыніцца на праблемным пытанні (яно было адно) — рэклама.

Шкада, што мы пакуль мала клапоцімся пра гэта.

Думаецца, супрацоўнікам нашага дыпламатычнага корпуса варта наладзіць больш цесныя кантакты са сродкамі масавай інфармацыі ў краінах і гарадах, дзе працуюць прадстаўніцтвы.

*************************************************

## *Падтрымоўвайце "Беларускі Дайджэст" ды заахвочвайце іншых!*

**УВАГА! УВАГА! УВАГА!**

**З незалежных ад нас прычынаў, наступны № газэты зьявіцца за месяц сакавік, 2003 г.**